*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 5 (844) 30 СТУДЗЕНЯ 2008 г.

## Наперадзе чарговы з'езд ТБМ

Паважаныя сябры! На апошнім сваім паседжанні Рада ТБМ вырашыла ў адпаведнасці з нашым статутам у кастрычніку гэтага года правесці чарговы з'езд ТБМ. У сувязі з гэтым трэба зараз пачаць падрыхтоўчую працу.

Таксама, у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам да 1 сакавіка кіраўніцтва павінна накіраваць у Міністэрства юстыцыі звесткі аб дзейнасці ТБМ за мінулы год і інфармацыю аб усіх зарэгістраваных рэгіянальных структурах ТБМ.

Таму я вельмі прашу кіраўнікоў нашых мясцовых суполак і іншых структур да 1 лютага зрабіць наступную працу:

1) Ва ўсіх арганізацыях, у якіх за апошнія два гады не было справаздачна-выбарчых сходаў ці канферэнцый, - правесці іх як мага хутчэй і даслаць у сядзібу ТБМ наступную інфармацыю: выпіску аб правядзенні сходу ці канферэнцыі і звесткі аб абраных кіраўнічых органах: старшыні, намесніку, скарбніку, сябрах рады і рэвізійнай камісіі.

Трэба адзначыць, што такія сходы і канферэнцыі ўжо адбыліся ў Навапалацку, Нясвіжы, Заслаўі, Светлагорску, Берэзінскім р-не, Дзятлаўскім р-не, Ленінскім р-не г. Менска, і іншых раёнах Беларусі, а таксама за межамі нашай краіны.

2) Даслаць у сядзібу ТБМ і рэдакцыю газеты "Наша слова" да 15 лютага справаздачы /пажадана з ілюстрацыямі/ аб дзейнасці вашых арганізацый за 2007 год. Некаторыя справаздачы мы ўжо надрукавалі на старонках нашай газеты. Чакаем Вашых новых допісаў, асабліва з абласных гарадоў.

3) Прадоўжыць падпіску на "Наша слова" на другі квартал, асабліва сярод настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ і студэнтаў. Трэба сказаць, што ў апошнія дні мінулага года сакратарыят ТБМ. дзякуючы дапамозе Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі здолеў дадаткова падпісаць на паўгады наступныя раённыя бібліятэкі: г. Глыбокае, Паставы, Орша (Віцебская вобл) Івацэвічы і Ляхавічы (Берасцейская вобл) і г. Капыль (Менская вобл).

Такім чынам амаль усе раённыя бібліятэкі Беларусі ўжо атрымліваюць газету "Наша слова". Тыя некалькі бібліятэк, якія засталіся без "Нашага слова", атрымаюць газету ў другім квартале.

4) Актывізаваць збор сяброўскіх складак і перасылку ці перадачу іх у сядзібу ТБМ, альбо адразу на рэспубліканскі рахунак ТБМ за мінулы год (гл. інфармацыю у нумары "НС" №3).

Хачу паведаміць таксама ўсім удзельнікам збору подпісаў (а яны збіраліся двойчы) за наданне вуліцам нашай сталіцы імёнаў Льва Сапегі і Янкі Брыля добрую навіну.

Рашэннем Менскага гарадскога Савета №97 ад 30 лістапада 2007 года і зацверджанага Міністэрствам юстыцыі пад № 9/12495 дзвюм новым вуліцам нашай сталіцы гэтыя імёны нададзены.

Зараз трэба актывізаваць збор подпісаў за захаванне беларускай мовы як прадмета ў нашых ВНУ.

Жадаю Вам усім плённай працы.

З павагай,

*Старшыня ТБМ – Алег Трусаў.*

---

**УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ МІНСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА ДЭПУТАТАЎ**

Старшыні Грамадскага аб'яднання
«Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны»
Трусаву А.А.

**Аб увекавечанні памяці**
**Янкі Брыля і Льва Сапегі**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Паведамляем, што 30 лістапада 2007 г. Мінскім гарадскім Саветам дэпутатаў прынята рашэнне № 97 «Аб прысваенні назваў вуліцам г. Мінска», якое прайшло юрыдычную экспертызу ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Новым праектаваным вуліцам у мікраене Міхалова-1 наданы імёны народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля і выдатнага беларускага дзяржаўнага дзеяча канца XVI стагоддзя Льва Сапегі.

**Начальнік упраўлення У.М. Карачэўскі.**

---

РАШЭННЕ МІНСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА ДЭПУТАТАЎ
30 лістапада 2007 г. № 97

### 9/12495 Аб прысваенні назваў вуліцам г. Мінска

*(26.12.2007)*

У адпаведнасці з артыкулам 15 Закона Рэспублікі Беларусь ад 5 мая 1998 года «Об административно-территориальном делении и порядке решения вопросов административно-территориального устройства Республики Беларусь», праектам плана забудовы жылога квартала ў межах вул. Гурскага - пр. Дзяржынскага - рака Мышка (мікраён Міхалова-1) Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў ВЫРАШЫЎ:

1. Праектаванай вуліцы № 1 на ўчастку ад праспекта Газеты «Звязда» да вул. Гурскага ў межах забудовы вул. Гурскага - пр. Дзяржынскага - рака Мышка (мікраён Міхалова-1) надаць імя народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля і надалей называць яе «вуліца Янкі Брыля (Янки Брыля)».

2. Праектаванай вуліцы № 2 на ўчастку ад праектаванай вуліцы № 1 да вул. Гурскага ў межах забудовы вул. Гурскага - пр. Дзяржынскага - рака Мышка (мікраён Міхалова-1) надаць імя выдатнага беларускага дзяржаўнага дзеяча канца XVI - першай паловы XVII стагоддзя Льва Сапегі і надалей называць яе «вуліца Льва Сапегі (Льва Сапеги)».

3. Безназоўнаму праезду ад вул. Калінsocскага да Мінскай аўтамабільнай кальцавой дарогі ў мікраёне Зялёны Луг, які злучае кальцавую аўтамабільную дарогу з храмам -помнікам у гонар Усіх Святых у памяць бязвінна забітых, прысвоіць назву «вуліца Усіхсвяцкая» (Всехсвятская)» і надалей называць яе «вуліца Усіхсвяцкая (Всехсвятская)».

**Старшыня М.В. Матусевіч.**

---

## 170 гадоў з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага



Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 года ў вёсцы Мастаўляны пад Беластокам. Паходзіў са шляхецкага роду Каліноўскіх герба "Калінава", які паводле пісьмовых крыніцаў вядомы з XVII стагоддзя.

Першапачатковую адукацыю будучы рэвалюцыянер атрымаў у Свіслацкай павятовай навучальні. Вялікі ўплыў на яго меў старэйшы брат Віктар, які вучыўся ў Маскоўскім унівэрсітэце, вывучаў па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі старадаўнія беларускія рукапісы.

У 1856 годзе Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсітэта, які скончыў праз чатыры гады з навуковай ступенню кандыдата права. Ужо ў студэнцтве ён рашуча ступіў на сцяжыну палітычнай барацьбы з самаўладдзем, разам з братам належаў да рэвалюцыйнага гуртка Зыгмунта Серакоўскага і Яраслава Дамброўскага. На Бацькаўшчыну Каліноўскі вярнуўся ў 1861 годзе перакананым змагаром супроць царызму.

Кастусь стаўся стваральнікам і душой нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гародні, разам з паплечнікамі ездзіў па навакольных вёсках і мястэчках, дзе вёў прапаганду сярод сялянаў, рыхтуючы іх да паўстання. Гэтай мэце служыла і нелегальная беларуская газета "Мужыцкая праўда", якую Каліноўскі пачаў выдаваць у 1862 годзе супольна з Феліксам Ражанскім, Станіславам Сангіным і Валерам Урублеўскім.

Увосень 1862-га К. Каліноўскі ўзначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт, што рыхтаваў вызвольнае паўстанне ў Беларусі. Кастусь стаяў на чале найбольш паслядоўных рэвалюцыянераў, якіх адрозна ад ліберлаў ("белых") называлі "чырвонымі". Яны выступалі супроць саслоўнай няроўнасці, за дэмакратычную рэспубліку, за перадачу зямлі сялянам. Каліноўскі лічыў, што народы Беларусі, Летувы ды Ўкраіны павінны самі развязаць пытанне пра сваю незалежнасць. "Белыя" ж лічылі галоўнаю задачай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года.

Пасля пачатку паўстання "белым" удалося адхіліць Каліноўскага і ягоных паплечнікаў ад кіраўніцтва. Ён стаў паўстанцкім камісарам Гарадзенскай губэрні, здолеў прыцягнуць да ўдзелу ў збройнай барацьбе шмат сялянаў. Улетку 1863 году Кастусь зноў узяў у свае рукі кіраўніцтва віленскім паўстанцкім цэнтрам, які часам называлі "Чырвоным жондам".

Царскі ваенна-палявы суд вынес настанову: пакараць правадыра інсургентаў смерцю на шыбеніцы. Прысуд быў выкананы 22 сакавіка 1864 года на віленскім гандлёвым пляцы Лукішкі.

---

## "Роднаму слову" - 20 гадоў

25 студзеня 2008 года адзначыў свой 20-гадовы юбілей часопіс "Роднае слова". Выданне фактычна вядзе свой пачатак ад 1987 года, калі ў часопісе "Народная асвета" існаваў невялічкі раздзел "Беларуская мова і літаратура". Цікавасць да гэтых публікацый расла, гэтак жа як і папаўняўся запас матэрыялаў. Было прынята рашэнне аб заснаванні асобнага выдання. З лёгкай рукі тагачаснага Міністэрства асветы Беларусі, якое і стала заснавальнікам, у студзені 1988 года пабачыў свет першы нумар часопіса "Беларускай мовы і літаратуры ў школе".

Ад самага пачатку рэдакцыйная калегія не абмяжоўвалася асвятленнем толькі пытанняў мовы і літаратуры. Наспела цалкам абгрунтаванае рашэнне змяніць назву. Таму з 1992 г. часопіс выходзіць пад новай вокладкай "Роднае слова". Роднаслоўцы з імпэтам асвятлялі шырокую культурна-асветніцкую дзялянку: з нумара ў нумар друкаваліся гістарычныя, культуралагічныя артыкулы. свой голас да чытача са старонак "Роднага слова" даносілі вядомыя пісьменнікі, акадэмікі, дактары і кандыдаты навук, метадысты і настаўнікі. Супрацоўнікі рэдакцыі не адмаўлялі і маладым аспірантам - у іх навуковым пошуку.

Да свайго юбілею роднаслоўцы падышлі са значным набыткам: выдадзена 240 нумароў, якія без сумнення можна назваць унікальнымі па духу і змесце.

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарына шчыра віншуе супрацоўнікаў рэдакцыі "Роднага слова" з юбілеем і жадае ім усім моцнага здароўя, упэўнена трымаючага абранага кірунку, шырыць кола сваіх аўтараў і чытачоў, радаваць нас усіх цікавымі і змястоўнымі публікацыямі.

*Сакратарыят ТБМ.*

№ 5 (844) 30 СТУДЗЕНЯ 2008 г. Наша слова

# На радзіме Кастуся Каліноўскага



Ваколіцы Мастаўлянаў



Від на Мастаўляны. Там крыху далей ужо Беларусь.

Продкі Каліноўскага амаль сто гадоў валодалі маёнткам Калінава. Пасля ягонага продажу у 1836 годзе бацька будучага кіраўніка паўстання заснаваў у Мастаўлянах ткацкую фабрыку. Тут і нарадзіўся Кастусь Каліноўскі.

На жаль, матэрыяльных артэфактаў, звязаных з родам Каліноўскіх, не захавалася. Але мясцовае насельніцтва памятае і шануе беларускага героя. Адзінае, што раней на будынку мастаўлянскай школы вісела мемарыяльная шыльда ў гонар лідара нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 г. К.Каліноўскага. Зараз будынак школы часткова разбураны, а шыльда скрадзена.

Кастусь Вікенці Каліноўскі быў ахрышчаны ў парафіяльным касцёле ў недалёкай Ялоўцы. Дарэчы, храм у адрозненне ад школы цудоўна захаваўся.



У вёсцы Мастаўляны



Касцёл у Ялоўцы, дзе хрысцілі Кастуся Каліноўскага

Прадстаўнікам беларускай культуры, журналістыкі і публіцыстыкі, пісьменніцкаму асяроддзю і чытацкай аўдыторыі, філалагічнай навукі і выдавецкай справы, супрацоўнікам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі добра вядома імя Георгія Фёдаравіча Юрчанкі. Творчая біяграфія гэтага чалавека з'яўляецца вельмі цікавай і насычанай.

Нарадзіўся Г. Юрчанка 31 студзеня 1928 года ў вёсцы Кудрычы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. вучыўся ў Мсціслаўскай сярэдняй школе. Потым паступіў у Магілёўскі настаўніцкі інстытут, пасля заканчэння якога ў 1951 годзе працуе настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў школах Дзятлаўскага і Воранаўскага раёнаў Гарадзеншчыны.

Працу ў школе малады настаўнік спалучае з вучобай завочна ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце на філалагічным факультэце, які заканчвае ў 1959 годзе. Фармаваннем сваім як філолага і пісьменніка Георгій Юрчанка абавязаны вельмі многім вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу Якубу Усікаву, а таксам таленавітаму мовазнаўцу Пятру Юргелевічу, у якіх вучыўся, набіраўся досведу і якія прадвызначылі, па словах самога Георгія Фёдаравіча, яго далейшы лёс журналіста, крытыка, публіцыста, мовазнаўца, выдавецкага работніка. Нарысы і замалёўкі Георгія Юрчанкі змяшчаюцца ў мсціслаўскай раённай газеце "Святло Кастрычніка", а таксама ў газетах "Звязда", "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", "Сельская газета", "Мінская праўда", "Вячэрні Мінск", у часопісах "Полымя", "Вожык". Мсціслаўская раённая газета ў 15 нумарах надрукавала нарыс Г. Юрчанкі па гісторыі Мсціслаўшчыны. Выходзяць артыкулы і нарысы аўтара пра культурнае і літаратурнае жыццё рэспублікі. За плённую журналісцкую і публіцыстычную дзейнасць Георгій Юрчанка ў 1963 годзе выбіраецца членам Саюза журналістаў СССР.

Вяршыняй журналісцкай і публіцыстычнай дзейнасці Георгія Юрчанкі з'явілася яго кніга "На мсціслаўскай зямлі ўзгадаваны. Нарыс жыцця і навуковай дзейнасці П.П. Кабекі", якая выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1986 годзе. Гэта кніга пра выдатнага савецкага фізіка члена-карэспандэнта АН СССР Паўла Паўлавіча Кабеку (1897-1954) – нашага земляка, аднавяскоўца Георгія Юрчанкі, паплечніка і калегі такіх карыфеяў фізічнай навукі, як акадэмікі А.Ф. Ёфе, П.Л. Капіца, І.В. Курчатаў, М.М. Сямёнаў, В.Д. Скабельцын, Л.Д. Ландаў, Я.Б. Зельдзевіч, Я.І. Фрэнкель, А.І. Аліханаў, Л.А. Арцымовіч. Асноўныя работы П.П. Кабекі прысвечаны даследванню аморфных рэчываў і палімераў. Ім створана новая галіна фізікі цвёрдага цела. Фізік адным з першых пачаў даследаванні ў кірунку пераводу гумавай прамысловасці на сінтэтычны куўчук. У час Вялікай Айчыннай вайны ў асадным Ленінградзе вучоны распрацоўваў навуковыя праблемы, звязаныя з абаронай.

У час працы над гэтай кнігай у аўтара было многа паездак у Ленінград і Маскву, сустрэч з родзічамі вучонага і яго калегамі і вучнямі, якія жылі і працавалі ў Ленінградзе. Прыходзілася вывучаць архіўныя матэрыялы, знаёміцца з навуковай спадчынай вучонага і яго калег, наведаць музейны куток П.П. Кабекі, які арганізавалі вучні славутага фізіка ў Ленінградскім палітэхнічным інстытуце. Рабіць фотакопіі і фотаздымкі, большасць якіх як ілюстрацыі змешчаны ў кнізе Г. Юрчанкі. Рускамоўны варыянт гэтай кнігі, дапрацаванай і дапоўненай, выйшаў у 1991 годзе.

Вядомы Георгій Юрчанка філалагічнай і пісьменніцкай грамадскасці і як літаратурны крытык. Ім апублікавана ў "Полымі", "Літаратуры і мастацтве", "Чырвонай змене" і іншых выданнях шмат артыкулаў і рэцэнзій, у якіх даецца грунтоўны аналіз літаратурных твораў такіх беларускіх пісьменнікаў. Як М. Скрыпка. А. Бажко. М. Даніленка, В. Гігевіч, А. Наўроцкі, В. Каваленка, М. Грынчык і інш. Георгій Юрчанка першым адгукнуўся на з'яўленне аповесці Васіля Быкава "Жураўліны крык" рэцэнзіяй, якая была змешчана ў "ЛіМе" ў канцы красавіка 1960 года. Выступіў у друку Г. Юрчанка і з характарыстыкай моўных асаблівасцей апавяданняў В. Хомчанкі і аповесці А. Пальчэўскага "Ты не адзін".

Георгій Юрчанка падрыхтаваў да друку кнігу паэзіі вядомага беларускага паэта 20-30 –х гадоў XX стагоддзя Сяргея Фаміна пад назваю "Дымнае жыта. Вершы, паэмы, пераклады" і паспрыяў яе выхаду ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1991 годзе. Г. Юрчанка напісаў прадмову да гэтай кнігі пад назвай "З Беларуссю заручоны" і зрабіў каментарыі і заўвагі да кожнага з паэтычных твораў, змешчаных у гэтым выданні. Паэт Сяргей Фамін стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій трыццатых гадоў і быў расстраляны 4 снежня 1941 года.

Другой гранню багатага таленту Г. Юрчанкі з'яўляецца яго пісьменніцкая дзейнасць. Менавіта як пісьменнік. як паэт пачаў ён сваё творчае жыццё. Найбольш жа ярка пісьменніцкі талент Георгія Юрчанкі праявіўся ў літаратурных пародыях і эпіграмах. Упершыню пародыі Георгія Юрчанкі былі апублікаваны ў часопісе "Вожык" у 1960 годзе. "Вожыкаўцы" вельмі спрыяльна сустрэлі яго першыя пародыі, далі шырокую дарогу творам пісьменніка. У серыі "Бібліятэка Вожыка" у 1965 годзе выйшла і першая кніжка пародый і эпіграм Г. Юрчанкі пад назвай "Распрэжаны Пегас". Талент Юрчанкі-пісьменніка рос і мужнеў. Выходзяць адна за адной кніжкі пародый і эпіграм: "Вярхом на вожыку" (1968). "Немеладычныя мелодыі" (1974), "Парнаскія ўхабы" (1979), "У натхнёнай паграбеньцы" (1983), "Негабляваная пегасня" (1989), "Абаранкі пад хрэнам" (1994). У зборніках сабраны пародыі на беларускіх празаікаў, паэтаў, песеннікаў, драматургаў, крытыкаў. Пад абстрэл парадыста трапляюць літаратурная поза, неглыбокае пранікненне ў сутнасць з'яў, непатрэбная ўскладанасць, захапленне словатворчасцю, празмернае ўжыванне дыялектных словаў, драбнатэмнасць, мнагаслоўе, гладкапіс, маралізатарства і інш.

Гумар сатырыка шчыры, добразычлівы. А падчас калючы і нават з'едлівы. Талент Юрчанкі-парадыста ва ўменні выбраць патрэбнае ў неабсяжным моры літаратурных з'яў, ва ўменні дасягнуць камічнага эфекту. Усё гэта робіць кнігі пародый і эпіграм аўтара вясёлымі і цікавымі.

Георгій Юрчанка – член Саюза пісьменнікаў з 1975 года.

Трэцім відам творчай дзейнасці Георгія Юрчанкі з'яўляецца беларускае мовазнаўства. А дакладней збор, вывучэнне і сістэматызацыя дыялектнай лексікі і фразеалогіі гаворак роднай Мсціслаўшчыны – мяжы непасрэдных кантактаў сучасных беларускіх і рускіх гаворак. Першай мовазнаўчай кнігай Г. Юрчанкі быў яго "Дыялектны слоўнік" (1966), у якім аўтарам растлумачана значэнне 2170 слоў, не лічачы варыянтаў і форм. У 1969 годзе Г. Юрчанка выдаў сінанімічны слоўнік па дыялектнай лексіцы, які назваў "Народная сінаніміка". У ім распрацавана 440 сінанімічных радоў. Гэта быў першы сінанімічны слоўнік па сінаніміцы дыялектлексікі.

У 1981, 1983 і 1985 гадах выйшаў у свет трохтомны слоўнік Георгія Юрчанкі пад назвай "Народнае вытворнае слова". У ім з ілюстрацыямі і тлумачэннем пададзена каля 16200 лексічных адзінак. У гэтай лексікаграфічнай працы словы падаюцца камбінаваным алфавітна-гнездавым спосабам. У гнёзды аб'ядноўваюцца звычайна аднакаранёвыя словы, якія блізка стаяць паводле алфавіту: напр.: ***бульбашнік, бульбяннік, бульбятнік, бульбяшнік***, /ахвотнік да бульбы/, у гэтым жа гняздзе прыводзяцца з ілюстрацыямі і формы жаночага роду – ***бульбашніца, бульбянніца, бульбятніца, бульбяшніца: намасаліваціа, намаселіцца, намаселеный; якей, якенькій. якенечкій*** і г.д.

У 1988 годзе выйшла з друку праца Георгія Юрчанкі "Сучаснае народнае слова. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Слоўнік". У слоўнік уключаны багаты лексічны матэрыял. каля 4000 слоў, сабраны аўтарам у 60-80-я гады XX стагоддзя на ўсходзе Беларусі. на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. У гэтай працы слоўнікавыя артыкулы таксама пабудаваны гнездавым спосабам.





# Шматгранны талент на карысць роднай мове, літаратуры, журналістыцы, культуры

## (Да 80-годдзя з дня нараджэння Георгія Юрчанкі)

У адным артыкуле аб'яднаны, напрыклад, дзеясловы закончанага і незакончанага трывання ***абшалушываць і абшалушыць***, зваротныя дзеясловы абодвух трыванняў, утвораныя ад апошніх – ***абшалушывацца і абшалушыцца***, дзеепрыметнікі – ***абшалушаный, абшалушоный*** і дзеепрыслоўе закончанага трывання ***абшалушемшы (абшалушыўшы)***. У артыкулах на назоўнікі і прыметнікі падаюцца памяншальныя формы: ***лабавік – лабавічок; ласкуціна – ласкуцінка; слабый-слабенечкій, слабёсенькій, слабёсенечкій, слабюсенькій. слабюсенечкій.***

Такое кампактнае размяшчэнне матэрыялу дазволіла сэканоміць месца для падачы большай колькасці слоў і вялікай колькасці ілюстрацый, а таксама паказаць словаўтваральнае багацце гаворкі.

Абсалютная большасць слоў, пададзеных у апошнім слоўніку Георгія Юрчанкі, адсутнічаюць у слоўніках літаратурнай мовы. Выключэнне зроблена толькі для некаторых агульнанародных слоў, напрыклад, для слоў ***авёс, армяк, лес*** і некаторых іншых. І зроблена гэта для таго, каб паказаць народнае багацце вытворных ад іх слоў, што адсутнічаюць у слоўніках літаратурнай мовы: ***авясец, аўсішча, аўсюган, армячэнка, армячонка, армячышча, лясюга, лесюган, лясішча.***

Вельмі многа ў гэтым слоўніку арыгінальных, маладомых мясцовых слоў. Многія з іх упершыню выводзяцца на нашу агульнанацыянальную моўную арэну. Сярод іх варта назваць такія, напрыклад, словы, як: ***абада – навала, напасць; закаютак – куток, зацішная мясціна; ік – голас, здольнасць гаварыць; кургузік – нізкарослы чалавек; мушкарыць –муштраваць; нарцішца – упарціцца; субытчывацца – збірацца; улыбляцца – усміхацца; упорчывый, упорчыстый – упарты; хлепястаць – прагна піць; шабуцёж – шум, крык, галас*** і многія іншыя.

На старонках слоўніка сустракаем таксама многа слоў, шырока распаўсюджаных у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках, але якія адсутнічаюць у слоўніках літаратурнай мовы: ***адбалматаць – спыніць павольную, невыразную балбатню; заквактываць – пачынаць квактаць; кулдуячыць – гаварыць неразборліва; тыханне – біццё сэрца; убоістый – непаслухмяны, упарты; убухторывацца – налівацца; упацёмках – папацёмку; шмарцце – шмаццё*** і інш.

У слоўніку ёсць нямала слоў з агульнанародным беларускім коранем, але асаблівых сваім утварэннем, націскам, фанетычна, з іншым, чым у літаратурнай мове, граматычным родам і г.д., напрыклад: ***асвоіцца- асвойтацца; абшара – абшар; абычайна – звычайна; высцябываць – выбіваць сцябаннем; дагадчыватый, дагадчывый – здагадлівы; даказ – доказ; дактарша – доктарка; дарагатоў, дарагатоўля – дарагоўля; дармавізна – дармаўшчына; зацалець – уцалець; кромшы – акрамя; кружка – кружком; цвярдынь – вялікая цвёрдасць*** і г.д.

Пры першым знаёмстве са слоўнікам адразу звяртаеш увагу на вялікую колькасць у гэтай лексікаграфічнай працы экспрэсіўных, ацэначных, жаргонных і іншых стылістычна афарбаваных моўных адзінак, слоў з метафарычнымі і пераноснымі значэннямі. Такія словы і іх значэнні, трэба сказаць з упэўненасцю, даступны для выяўлення і збірання толькі дасведчанаму збіральніку, які вельмі добра ведае мясцовую гаворку. Да такіх слоў у слоўніку адносяцца, напрыклад, наступныя: ***адбялендзіць – набалбатацца, спыніць балбатню; адгвэздаць – моцна запэцкаць; артамоннічаць – быць разявакай; башкавіна – галава; ваўчэць – рабіцца нелюдзімым; дабязуліць – лодарнічаючы, нашкодзіць сабе; дадыхаць – дажыць; дахуркацца – дабурчацца; канархала – дакучлівая асоба; хармузнік – зграбны чалавек; церабіць – настойліва сцвярджаць сваё*** і г.д.

Шырока ў слоўніку прадстаўлена сінаніміка і словаўтваральная варыянтнасць, напрыклад: ***адправіцельная, адпраўная, адправешная – адпраўка, развітальны вечар; апекарка, апекарша, апекаршая – апякунка; апекарстваваць; апекарнічаць, апекарыць – апекаваць; даходлівый, даходный, дахожый – прабіўны; камсаць, камсіць, комсаць, кэмсаць – камячыць, мяць; лалакаць, лалалакаць, лалыкаць, лалахаць, лалакацца, лалалакацца – балбатаць*** і г. д. Шырока падаюцца памяншальныя формы слоў: ***краёк, краёчак, краюшок, краюшочак; махлаценькій, махласенькій, махлавасценькій; шкарлупашка, шкарлупашачка, шкарлупінка, шкарлупіначка, шкарлупачка*** і мн. інш.

У 1993, 1996 і 1998 гадах пабачыла свет праца Георгія Юрчанкі "Сучасная народная лексіка. З гаворкі Мсціслаўшчыны". Гэта трохтомны дыялектны слоўнік, які змяшчае каля 17400 слоў запісаных аўтарам у гаворках на тэрыторыі Мсціслаўскага раёна. Слоўнік змяшчае багаты разнастайны матэрыял. У ім, як і ў дзвюх папярэдніх працах Г. Юрчанкі, матэрыял падаецца алфавітна-гнездавым камбінаваным спосабам, што дазволіла аўтару кампактна падаць вялізны матэрыял, сабраны лексікографам на працягу чатырох дзесяцігоддзяў – у 60 – 80-я гады XX стагоддзя. У адрозненне ад папярэдніх выданняў у гэтай трохтомнай працы часцей раскрываецца метафарычны бок мясцовай лексікі, пераносныя значэнні слоў.

Георгій Фёдаравіч Юрчанка з'яўляецца таксама актыўным збіральнікам і сістэматызатарам беларускага фальклору. Так. У 1972 годзе ён выдае першую кнігу трохтомнага фразеалагічнага слоўніка на літары А – З пад назвай "І коціцца і валіцца". Другі том слоўніка на літары І – П пад назвай "І сячэ і паліць" выйшаў у 1971 , а трэці (на літары Р – Я) пад назвай "Слова за слова" – у 1977 годзе. у загалоўкі ўсіх трох кніг слоўніка вынесены жывыя мясцовыя ўстойлівыя выразы. У гэтай рабоце апрацавана 18 тысяч фразеалагічных выразаў і іх варыянтаў (асноўных, апорных фразеалагізмаў у трохтомніку 8 тысяч).

У раней згаданай працы Г. Юрчанкі "Сучаснае народнае слова. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Слоўнік" (1988) ёсць фальклорны дадатак. Гэта тэксты мясцовых мсціслаўскіх прыказак, прымавак, прыгаворак, жартаў, выразаў, формул, зачынаў. клятваў і пажаданняў, праклёнаў і зламысных пажаданняў, дыялогаў, частушак, песень, замоў, анектотаў, легенд, павер'яў, паданняў, народных апавяданняў. Спіс гэтых фальклорных тэкстаў налічвае ў дадзенай працы 676 назваў.

У 2001 годзе ў Магілёве выйшла кніжка Георгія Юрчанкі "Крылатыя залацінкі Мсціслаўшчыны". Гэта тлумачальны слоўнік прыказак. якія бытуюць ва ўсходніх беларусіх гаворках. У слоўнік увайшло звыш паўтысячы прыказак. якія ў абсалютны сваёй большасці бытуюць толькі на адзначанай моўнай тэрыторыі. Гэта найкаштоўнейшы матэрыял для фалькларыстаў, мовазнаўцаў, майстроў мастацкага слова. На вялікі жаль, у артыкуле ўсяго гэтага багацця нельга паказаць. Прывядзём толькі некалькі прыкладаў: ***агонь у саломе не схаваеш (не месіцца); адзін блін і той на рэшаце; адзін відзіць за Сажем, другі за Вяхрою; адзінокаму сабаку і хвост забава; без меркі і лапця не сплецеш; вароты незапёрты, хочаш – у рай, хочаш к чорту; вушы золатам завешаны, дзеткі бульбачкай пацешаны; дакоскі гуляюць у коскі; жаліўся казёл барану на надворную свінню; наняўся кот смятану сцярэжч; не жаніўся – дзве анучы, ажаніўся – трапак куча; пад носам узышло, у галаве не сеяна; сэрца з перцам, душа з цыбуляю; твае кляты табе ў пяты; у акуратніцы серада з-пад пятніцы; у доўг браць – шыю падстаўляць; у цеснаце і кукіш не пакажаш; хочацца ў рай, ды каб з бутылачкай; цыбуля з рэдзькаю ўсягды сталкуюцца; чужбіна па шэрсці не гладзіць; што ні дзень, то пятніца; яму каб барыню ды ўпрысядачку*** і г.д.

У выдавецтве "Беларуская навука" ў 2002 годзе выйшла кніга Георгія Юрчанкі "Народнае мудраслоўе" Матэрыял для гэтай працы аўтар збіраў на працягу паўстагоддзя на ўсходзе Беларусі, на Мсціслаўшчыне. Кніга складаецца з чатырох частак. Першы раздзел называецца "Прыказкі". Ён у кнізе займае важкае месца (сс. 6-84). Прыказкі (а іх з варыянтамі кампанентаў у працы нададзена 808) адлюстравалі шматвяковы досвед і мудрасць народа. У іх добразычлівая ўсмешка і рэзкае асуджэнне. Радасць і гора. Прыязнасць і адмаўленне. Выклікаюць здзіўленне высокія мастацкія якасці прыказак. іх народная апрацаванасць, дасканаласць. Многія прыказкі вылучаюцца трапнай рыфмай: ***у хвастуна ўсяму адна цана; харош Панас, ды не пра нас; ці еўня, ці асець, глядзі, каб не акасець.*** Характэрна для пададзеных у слоўніку прыказак гінербала: ***на адну аўцу сем пастухоў; упяцярых адзін сноп нясуць; пачасалася свіння аб шула – сем дажджоў не адмыюць*** і інш.

Вельмі важна, што ў гэтай працы, як і ў папярэдняй, тлумачыцца сэнс кожнай прыказкі і кожная прыказка забяспечана ілюстрацыяй з мясцовай гаворкі.

Другі раздзел кнігі называецца "фразеалагізмы" у ім пададзены, растлумачаны і праілюстраваны 881 фразеалагізм. Што вельмі важна, у слоўнікавых артыкулах падаюцца варыянты фразеалагізмаў, якія маюць ужыванне ў жывой гаворцы. Зазначым, што гэтыя фразеалагічныя адзінкі не паўтараюць тых, што былі прыведзены Г. Юрчанкам у яго названым вышэй трохтомным фразеалагічным слоўніку.

У трэці раздзел працы "Народнае мудраслоўе" (сс. 177-204) увайшлі народныя параўнанні. Спіс іх налічвае ў кнізе 380 адзінак. Кожнае параўнанне, як і фразеалагізмы, забяспечана дэфініцыяй і ілюстрацыяй.

Завяршае кнігу раздзел "Лексіка" (сс. 205-317), у якім лексікаграфічна афармлена 1957 моўных адзінак. Аднакаранёвыя і вытворныя адзінкі адной часціны мовы падаюцца ў гнёздах пад апорнымі словамі. Гэты раздзел у большасці сваёй прадстаўляюць эмацыянальна-экспрэсіўныя словы.

Фальклорныя матэрыялы, сабраныя Г. Юрчанкам у народных гаворках, публікаваліся ім таксама ў калектыўным зборніку "Праблемы сучаснага беларускага фальклору" (1969), у часопісе "Полымя" і ў іншых выданнях.

Народная мова па сутнасці невычэрпная: акрамя чатырнаццаці тамоў слоўнікаў. Георгій Юрчанка апублікаваў таксама значную колькасць артыкулаў па дыялектнай лексіцы і тапаніміцы, прычым большасць з гэтых публікацый асаблівыя па зместу, бо раскрываюць калі можна так сказаць, цяжкадаступныя і малавывучаныя лексічныя пласты народнай мовы. Выйшла таксама многа рэцэнзій Г. Юрчанкі на працы, слоўнікі беларускіх мовазнаўцаў, на працы беларускіх фалькларыстаў і інш.

Слоўнікі Георгія Юрчанкі высока ацэнены вядомымі спецыялістамі-мовазнаўцамі. Шмат рэцэнцій паявілася на іх у беларускім, саюзным і замежным друку.

Выдадзеныя Г. Юрчанкам слоўнікі і лексікаграфічныя і фразеалагічныя матэрыялы да іх, а таксама падрыхтаваныя ім да друку новыя лексікаграфічныя матэрыялы аб'ядноўваюць звыш 100 тысяч моўных адзінак. Параўнаем: да гэтага самымі значнымі зборамі дыялектнай лексікі былі – пяцітомны "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (1979-1988) (38 тысяч слоў). Пяцітомны "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (1993-1998) (звыш 22 тысяч моўных адзінак. "Краёвы слоўік усхоняй Магілёўшчыны" (1970) І.К. Бялькевіча (звыш 20 тысяч слоў), пяцітомны "Тураўскі слоўнік" (1982-1987), выкананы пад кіраўніцтвам А. А. Крывіцкага (20 тысяч слоў).

Акрамя гэтага, Г. Юрчанка зафіксаваў, апрацаваў і апублікаваў 5 тысяч фальклорных адзінак, якія называліся вышэй.

Збіральніцкай, сістэматызатарскай і даследчай працы ў галіне народнай беларускай лексікі, фразеалогіі і фальклорнага матэрыялу Юрчанка прысвяціў каля шасці дзесяткаў гадоў. Толькі вялікія творчыя намаганні, самаадданая, самаахвярная праца, вялікая любоў да народнага слова, тонкае моўнае чуццё і вельмі добрае веданне роднай гаворкі дазволілі Георгію Фёдаравічу Юрчанку зрабіць у названай галіне столькі, што бывае часам не пад сілу цэлым калектывам.

Георгія Фёдаравіча Юрчанку можна з вялікай упэўненасцю, без перабольшання ахарактарызаваць як беларускага Уладзіміра Даля.

Зробленае Георгіем Юрчанкам як лексікографам заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

Падсумоўваючы больш чым пяцідзесяцігадовую творчую дзейнасць Георгія Юрчанкі, неабходна сказаць, што ён падрыхтаваў і апублікаваў больш, як 550 работ. Гэта, як было адзначана вышэй, пародыі і эпіграмы, вершы і замалёўкі, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы, літаратрныя агляды і рэцэнзіі, слоўнікі, дзве публіцыстычныя кнігі, фальклорныя матэрыялы, краязнаўчыя працы і інш.

І нарэшце нельга не спыніцца на выдавецкай дзейнасці Г. Юрчанкі. З 1961 па 1988 год месцам яго працы было выдавецтва "Навука і тэхніка" ў Менску. З сакавіка 1962 па люты 1988 года Г. Юрчанка быў загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва гэтага выдавецтва. За 25 гадоў кіраўніцтва рэдакцыяй праз рукі і вочы Георгія Юрчанкі прайшло і ўбачыла свет звыш 600 назваў кніг, брашур, штогоднікаў. Асноўныя з іх – 30-томнае выданне беларускага фальклору, аб'яднанае назвай "Беларуская народная творчасць", многія іншыя працы па беларускім фальклоры, этнаграфіі, мастацтве, летаратуразнаўстве, мовазнаўстве.

Г. Юрчанка клапаціўся не толькі пра паляпшэнне якасці навуковай прадукцыі, што выходзіла ў яго рэдакцыі, але і рыхтаваў кваліфікаваныя кадры выдавецкіх работнікаў.

Вялікую грамадскую работу вёў Г. Юрчанка ў выдавецтве "Навука і тэхніка" і ў Акадэміі навук у цэлым. Так, на працягу 13 гадоў ён узначальваў журналісцкую арганізацыю Акадэміі навук Беларусі, быў членам народнага кантролю Акадэміі навук, выконваў іншую грамадскую работу. Калегі Г. Юрчанкі і ўсе, хто сутыкаўся з ім у выдавецкай справе і грамадскай рабоце, асноўнымі рысамі яго характару называюць прынцыповасць, актыўнасць, акуратнасць, незвычайную працавітасць, сціпласць.

Георгій Фёдаравіч узнагароджаны медалём "Ветэран працы", значком Дзяржкамвыда СССР "Выдатнік друку", ганаровай граматай Дзяркамвыда БССР і БРК прафсаюза работнікаў культуры БССР, з'яўляецца лаўрэатам журналісцкай прэміі імя вядомага журналіста Беларусі 30-х гадоў XX стагоддзя Р. Вашчыленкі.

Няўрымслівым і творча актыўным чалавекам з'яўляецца Георгій Юрчанка і цяпер, у свае восемдзесят. Працуе над новымі мастацкімі творамі, адгукаецца рэцэнзіямі на новыя мастацкія творы, фалькларыстычныя, мовазнаўчыя і краязнаўчыя працы, збірае і сістэматызуе дыялектны і фальклорны матэрыял, працягвае працаваць у галіне краязнаўства.

Шматгранны талент Георгія Юрчанкі служыць добрым прыкладам для маладых дзеячоў культуры, філалагічнай навукі, журналістыкі, выдавецкай справы.

*Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута Мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі*
***Мікалай Крыўко.***

# СПРАВАЗДАЧА

**суполкі ДУ "Гісторыка-культурны музей-запаведнік "Заслаўе" ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны" за 2007 г.**

**1. Навукова-даследчая дзейнасць.**

1.1. Праводзяцца тэарэтычныя даследаванні па тэмах:

| | |
|---|---|
| "Музеефікацыя гарадзішча "Замэчак". (Падрыхтаваны даклад на тэму: "Музеефікацыя гарадзішча "Замэчак": гісторыя пытання, актуальнасць, прапанова па архітэктурнаму вырашэнню") | на працягу года, Казлоўскі В.І. |
| "Гісторыя Кальвінскага збору ў Заслаўі". (Праца ў архівах г. Менска). Напісаны даклад на тэму "Судовая справа Яна Янавіча Глябовіча на Люблінскім сейме 1569 г." | на працягу года, Макарчык А.А. |
| "Гісторыя Заслаўя 1917-1941 г.г." | на працягу года, Малаш Ю.Л. |
| "Тэма старажытнага Заслаўя ў творчасці Віктара Маркаўца" | на працягу года, Казлоўскі В.І. |
| "Інсітнае мастацтва" (Падрыхтаваны даклад на тэму: "Музей інсітнага мастацтва ў Заслаўі: Быць альбо не..?"). | на працягу года, Малаш Ю.Л. |
| "Духоўная спадчына Я.Драздовіча" Напісаны даклад на тэму: "Коллекция наивного искусства нз фондов НКМЗ "Заславль" | на працягу года, Малаш Ю.Л. |
| "К вопросу о происхождении клети как хозяйственного строения белорусов" (Выступленне з дакладам на канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту) | верасень, Макарчык А.А |

**2. Экспазіцыйная і выставачная дзейнасць.**

2.1. Выставачная дзейнасць:

Праведзены наступныя часовыя выстаўкі:

| | |
|---|---|
| "В поисках гармонии", (выстаўка жывапісных работ Т. Дауд) | сакавік - красавік, Малаш Ю.Л. |
| "Скрыня Пандоры" (канцэптуальная выстаўка на аснове твораў жывапісу Міхася Рагалевіча) | май-чэрвень, Казлоўскі В.І. |
| Выстаўка твораў Мікалая Дучыца, прысвечаная 110-угодкам мастака | верасень, Казлоўскі В.І. |

**3. Канферэнцыі**

3.1. Праведзена канферэнцыя:

| | |
|---|---|
| "Заслаўе. Карані нашага радаводу", пад час Шостага фестывалю Беларускай камернай музыкі ў Заслаўі. Выступілі з дакладамі на тэмы: | студзень |
| "Полоцкая княгиня Рогнеда как прообраз былинной невесты". | Макарчык А.А. |
| "Коллекция наивного яскусства нз фондов НКМЗ "Заславль". | Малаш Ю.Л. |
| 3.2. Праведзена канферэнцыя: "Старажытныя гарады. Праблемы даследавання, музеефікацыі, захавання помнікаў і гістарычных тэрыторый", прысвечаная 20-годдзю заснавання музея-запаведніка. Выступілі з дакладамі на тэмы: | снежань |
| "Судовая справа Яна Янавіча Глябовіча на Люблінскім сейме 1569 г." | Макарчык А.А. |
| "Музеефікацыя гарадзішча "Замэчак": гісторыя пытання, актуальнасць, прапанова па архітэктурнаму вырашэнню". | Казлоўскі В.І. |
| "Музей інсітнага мастацтва ў Заслаўі: Быць альбо не..?" | Малаш Ю.Л. |

**4. Публікацыі, выдавецкая і рэкламная дзейнасць**

4.1. Публікацыі:

| | |
|---|---|
| Артыкул для выдання "Учреждения Минска" | Казлоўскі В.І. |
| "Сусвет душою беларуса" (час. "Дзеяслоў", № 3, 2006 г.) | Малаш Ю.Л. |
| "Маляваныя дываны ад Алены Кіш да Тамары Дауд" (Краязнаўчая газета, 2006 г.) | Малаш Ю.Л. |
| Падрыхтаваны для выдання матэрыялы канферэнцыі "Заслаўе. Карані нашага радаводу". | Казлоўскі В.І. |
| Падрыхтавана для выдання кніга "Патаемнае наіўных мастакоў". | Малаш Ю.Л. |

*Сакратар суполкі Казлоўскі В.І.*

# Справаздача за 2007 год

## Заслаўскай суполкі "Нашчадкі Рагнеды" ГА Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Актыўных сяброў заслаўскай суполкі ТБМ налічваецца 6 чальцоў. Трое з сяброў арганізацыі не плацілі складкі: Макарчык А. А., Малаш Ю. Л., Трубач Т. Г. Выпісваюць газеты:

"Наша слова" - 3 чал.

"Звязда" - 1 чал.

"Народная воля" - 1 ч.

Па прычыне смерці з заслаўскай суполкі за гэты год выбылі З. М. Барай, Банкевіч Генадзь.

**Нашыя справы:**

Удзел у падрыхтоўцы друкаванай праграмы па кірунку "Нефармальная адукацыя", удзел у праграме "Устойлівае развіццё мясцовых супольнасцяў".

Адбыліся 2 паездкі двух сяброў за мяжу, у Літву.

У СШ №1 і 2 працуюць два беларускамоўныя класы.

Наведванне сябрамі ТБМ разнастайных фэстаў, імпрэз. Для павышэння свайго агульнаадукацыйнага узроўню і развіцця культуры.

Сябры суполкі маюць электронную пошту ў інтэрнэце. Выпушчаны два бюлетэні, якія асвятляюць навіны суполкі.

Вывучэнне некаторых прадметаў ва ўніверсітэтах па-беларуску сябрамі суполкі.

Святкаванне Калядаў у дзіцячых садках. Дзеці разам з бацькамі расказвалі вершы па беларуску, далучаліся да беларускіх традыцый.

Спадарыня Шарэйка у СШ №2 праводзіла з дзецьмі купальскія гульню

Віншаванне з юбілеямі сяброў суполкі.

Суполка "Нашчадкі Рагнеды" віншавала з Міжнародным днём роднай мовы педагагічныя калектывы школ і дзіцячых садкоў.

Збіранне подпісаў дзеля захавання беларускай мовы ў ВНУ.

Працягванне сувязяў з рознымі грамадскімі аб'яднаннямі: музеем Уладзіміра Караткевіча ў Оршы, СПА "Часенія", ТБШ і інш.

Дзелавое сулрацоўніцтва з ГА "Жаночы альянс" і НДАЭК, які знаходзіцца ў вёсцы Новае Поле.

Працяг даследавання гісторыі горада Заслаўя. Збіранне сябрамі ТБМ гістарычных і прыродных помнікаў навакольнага асяроддзя.

Працягваем папулярызаваць сярод насельніцтва дейнасць Заслаўскага запаведніка, школьнага музею "Беларуская хатка" у СШ №3, ваенна-гістарычнага музея ў СШ №2.

Прымаем ўдзел у святе беларускай пісьменнасці, Купалаўскіх чытаннях у Вязынцы; фэстах, музыкальных канцэртах, гасцёўнях у Менску і Заслаўі.

Сустрэча з паэтамі і празаікамі Беларусі, навукоўцамі, мастакамі і інш.

Праводзім рэкламу пясочных скульптур на кар'ерах горада Заслаўя.

Двое з нашых сяброў Стахоўскі С. і Аксючыц Г. паступілі на гістарычныя факультэты розных ВНУ.

Прымаем удзел у святкаванні па плану рэспубліканскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

Распаўсюджваем беларуску друкаваную прадукцыю.

*Старшыня Заслаўскай суполкі ТБМ "Нашчадкі Рагнеды" Вольга Шарэйка*

# КОНКУРСЫ "НАШЧАДКІ СКАРЫНЫ"

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" ў апошні час правяло ці працягвае праводзіць конкурсы "Прэмія імя Вацлава Ластоўскага для беларускамоўных выкладчыкаў ВНУ", "Беларускі Настаўнік 2007 года". Распачынае праводзіць веснавыя конкурсы на лепшую роднамоўную групу дашкольнай установы г. Менска і Менскай вобласці пад назвай "Нашчадкі Скарыны". У траўні журы ТБШ назаве па тры лепшыя групы д/у сталіцы і Меншчыны, якія вызначаюцца ўзорным нацыянальным выхаваннем. Для ўдзелу ў конкурсах неабходна запоўніць спецыяльную анкету (кіраўніку ўстановы, выхавацелю ці бацькам) і даслаць яе на адзін з наступных адрасоў да канца сакавіка 2008 года: 220029 Мінск, а/с 64, электронная пошта (tbskoly@tut.by).

Журы разглядае конкурсныя дакументы, па неабходнасці знаёміцца з групай пры дапамозе наведвання і ганаруе шэсць лепшых груп двух сталічных рэгіёнаў спецыяльнымі дыпломамі і падарункамі, адзначаючца таксама і іх выхавацелі.

З анкетай можна пазнаёміцца на старонцы ў інтэрнэце http://nastaunik.info; dzietki. org; тэлефон для даведак 029-7520821; 029-6322743.

# АНКЕТА

## ўдзельніка конкурсу "Нашчадкі Скарыны"

Назва групы з беларускай мовай выхавання ў д/у ______________________

Адрас д/у ______________________

Узрост дзяцей ________ Колькасць ________

Звесткі пра выхавацеляў (прозвішча, імя; адукацыя; стаж, інш.) ______________________

Візуальнае афармленне пакоя, забяспечанасць сродкамі выхавання (дасланае з РАА, выробленае) ______________________

Характарыстыка бацькоўскай супольнасці (дзіця ў сям'і, вядомыя бацькі) ______________________

Характарыстыка выхавачай працы ў групе (за якія якасці група вылучаецца на конкурс) ______________________

Кантактныя адрасы, тэл. тых, хто рэкамендуе ______________________

Можна пісаць на асобным лісце, павялічыўшы колькасць радкоў.

# Заснавана прэмія імя Фр. Аляхновіча "Беларускага дабарахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры"

Заснавана прэмія імя Францішка Аляхновіча грамадскага аб'яднання "Беларускае дабарахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры". Палажэнне аб прэміі было адзінагалосна прынята 22 студзеня на паседжанні мемарыяльнай секцыі таварыства і накіравана на зацвярджэнне рэспубліканскай рады аб'яднання.

У палажэнні, між іншым, адзначаецца, што прэмія заснoўваецца за значны ўнёсак у справу ўвекавечвання памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій і прысуджаецца грамадскім актывістам, дзеячам культуры і мастацтва, гісторыкам і краязнаўцам, літаратарам і журналістам.

Узнагароджанне праводзіцца камітэтам па прэміі з пяці чалавек, створаным пры рэспубліканскай радзе таварыства. Прадстаўленні на спаборцаў прэміі накіроўваюцца ў камітэт да 1 лютага. У лютым камітэт простай большасцю галасоў пры тайным галасаванні вызначае аднаго лаўрэата году.

Лаўрэату прэміі ўручаецца дыплом, знак і падарунак. Уручэнне прэміі адбываецца ўрачыста 9 сакавіка ў дзень народзінаў Ф. Аляхновіча і асвятляецца СМІ. Лаўрэат чытае лекцыю, выступае перад грамадскасцю краіны і замежжа, а яго фатаздымак з апісаннем заслуг змяшчаецца ў Памятнай кнізе лаўрэатаў.

Лаўрэацкі знак вырабляецца з каляровага металу. На вонкавым баку знака - барэльеф Ф.Аляхновіча, а на адваротным - тэкст у тры радкі: "Лаўрэат прэміі імя Ф. Аляхновіча". Асобна гравіруюцца парадкавы нумар прэміі і год яе прысваення.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# Што робіцца ў Міры?

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Тэлефакс (017) 203 90 45

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Телефакс (017) 203 90 45

12.01.2008 № 11-06/153
На № 181 ад 29.11.2007

Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

**Аб работах у Замкавым комплексе "Мір"**

Па выніках разгляду пытанняў адносна работ у Замкавым комплексе "Мір" паведамляем наступнае.

1. Пры афармленні музейных экспазіцый у Рэспубліцы Беларусь, як правіла, выкарыстоўваецца ў якасці асноўнай беларуская мова. Іншыя мовы прымяняюцца па неабходнасці з улікам характару і статусу канкрэтнага музея.

Адносна **моўнага афармлення** будучых экспазіцый Замкавага комплекса "Мір" такога ж роду інфармацыя была агучана супрацоўнікамі дзяржаўнай установы "Нацыянальны мастацкі музей Беларусі" (далей - Нацыянальны мастацкі музей), якія прадстаўлялі канцэпцыю музеефікацыі аб'екта 29 лістапада 2007 г. на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры (далей -Навукова-метадычная рада).

2. Згодна з устаноўленым заканадаўствам парадкам **Бубноўскаму Д.С. выдадзены сертыфікат (пасведчанне) ад 04.06.1999 г. № 0001** з прадстаўленнем права кіраўніцтва распрацоўкай навукова-праектнай дакументацыі на выкананне рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ на гісторыка-культурных каштоўнасцях катэгорый 0, 1, 2, 3 і ажыццяўлення аўтарскага нагляду пры іх правядзенні, што адпавядае палажэнням артыкула 39, пункта 1 і падпункта 2.1 пункта 2 артыкула 40 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" (далей - Закона). У гэтай сувязі няма падстаў сумнявацца ў кваліфікацыі навуковага кіраўніка работ на гісторыка-культурнай каштоўнасці "Замкавы комплекс "Мір", што пацвярджае шматгадовая работа Бубноўскага Д.С. у гэтай якасці.

Акрамя таго, неабходна ўлічваць, што адказнасць за распрацаваную праектную дакументацыю нясе непасрэдна генеральны праекціроўшчык, якім у дадзеным выпадку з'яўляецца УП "Мінскпраект". Па нашаму меркаванню, у яго складзе працуюць дастаткова падрыхтаваныя спецыялісты розных прафесій, здатныя ажыццяўляць праектную дзейнасць.

Варта таксама ўлічваць, што заказчыкам на выкананне ўсіх відаў работ у Замкавым комплексе "Мір" з'яўляецца Нацыянальны мастацкі музей, якім ажыццяўляецца прыёмка ва ўстаноўленым парадку навукова-праектнай дакументацыі і забяспечваецца яе рэалізацыя на аб'екце. Генеральным падрадчыкам на выкананне рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ выступае РБРУП "Мінскрэстаўрацыя".

У ходзе распрацоўкі праекта для размяшчэння калодзежа было прынята месца, дзе гэта збудаванне існавала да апошняга часу. Паводле абгрунтавання праектнага рашэння яно магло быць першапачатковым, прынамсі, на час рэканструкцыі замкавага комплексу ў перыяд Рэнесансу (1594 г.). Аб гэтым сведчыць размяшчэнне калодзежа побач з асноўным, нязменным з самага пачатку будаўніцтва замка, сцёкам вады з двара ў гаспадарчай зоне на дастатковай адлегласці ад парадных уваходаў і фасадаў палаца.

Тып калодзежа прыняты пасля прапрацоўкі альтэрнатыўнага варыянта размяшчэння на замкавым двары драўлянага "жураўля", канструкцыя якога, пры глыбіні ўзроўню вады больш сямі метраў ад паверхні брукоўкі, заняла б практычна ўсю дыяганаль двара. Улічвалася таксама і тая акалічнасць, што аб'ёмна-прасторавае і пластычнае асяроддзе замкавага двара сфарміравалася пад ўплывам рэнесансных традыцый, з улікам адлюстравання якіх выканана аднаўленне дваравых фасадаў палацавых карпусоў. Гэта стала прычынай выбару найбольш распаўсюджанага ў перыяд Рэнесансу тыпу калодзежа (з блокам), тым больш, што і на дзядзінцы Нясвіжскага замка ў гэты ж час быў створаны аналагічны па характару калодзеж.

Выбар пяшчаніка для афармлення надземнай часткі калодзежа абумоўлены выкарыстаннем каменя і ва ўладкаванні яго падземнай канструкцыі. Пластычнае яе афармленне ўлічвае эстэтычныя прыёмы і ў значнай частцы тыя ж архітэктурныя абломы, што скарыстаны для аздаблення дзвярных і вакочных праёмаў Мірскага замка. Вобраз металічнай канструкцыі калодзежа прыняты на аснове вывучэння еўрапейскіх аналагаў гэтага перыяду. Улічваліся таксама мясцовыя кавальскія прыёмы.

Праектнае рашэнне калодзежа было прадстаўлена на планшэтах, якія дэманстраваліся ў час пасяджэння Навукова-метадычнай рады, што праходзіла 18 красавіка 2007 г. у Замкавым комплексе "Мір". Пярэчанняў адносна яго вобразнага ўвасаблення не было.

Па выніках абследаванняў **печаў у капліцы-пахавальні Святаполк-Мірскіх** унітарным прадпрыемствам "Інстытут НДПТІБ (НИПТИС)" іх стан быў вызначаны як разбураны, у сувязі з чым было рэкамендавана выканаць новыя. Акрамя таго, у адпаведнасці з тэхнічным заключэнне названага інстытута № 2005.3Т.489, тэхнічнымі ўмовамі і заданнем на распрацоўку праекта, якія прадстаўлены заказчыкам, а таксама заключэннем органаў пажарнага нагляду была распрацавана навукова-праектная дакументацыя на ўладкаванне ў будынку сістэмы вадзянога ацяплення і на аднаўленне формаў і знешняга выгляду печаў з іх выкарыстаннем для сістэмы вентыляцыі памяшканняў.

Навуковым кіраўніком работ 06.03.2007 г. у журнале аўтарскага нагляду зроблены запіс, згодна з якім разборку ўсіх печаў належала ажыццяўляць "з асаблівай акуратнасцю з мэтай максімальнага захавання цэлых кафляў (асабліва карнізных). Цэлыя кафлі ачысціць ад пабелак і пафарбовак. Прыдатныя для паўторнага выкарыстання кафлі рассартыраваць па тыпах, іх колькасць аформіць актам".

Атрыманыя ад разборкі печаў кафлі сістэматызаваны і захоўваюцца на вытворчай базе УП "Мінскрэстаўрацыя" у Калядзічах. З іх выкарыстаннем ёсць магчымасць аднавіць адну печ (не хапае толькі адной кутняй кафлі). Праектныя рашэнні па аднаўленню знешняга выгляду печаў прынята на падставе абмерных чарцяжоў і фотафіксацыі, выкананых УП "Белінфармрэстаўрацыя" у 2004 г. (аб'ект № 17-04-КНД-0). Памеры і колькасць металічных вырабаў вызначаны на падставе абмераў праёмаў і адтулін печаў. Атрыманая ад УП "Мінскпраект" праектная дакументацыя на аднаўленне печаў капліцы-пахавальні перададзена заказчыкам у вытворчасць ва ўстаноўленым парадку.

Можна прызнаць справядлівай выказаную заўвагу адносна недастаткова ахайна выкананай работы па разборцы печаў, на што было ўказана службе тэхнагляду заказчыка і генеральнаму падрадчыку. Аднак гаварыць аб варварскім разбурэнні печаў па прычыне недагляду Бубноўскага Д.С. не выпадае.

Рабочая дакументацыя **на аднаўленне печаў у памяшканні сталовай паўночнага копуса Мірскага замка** выканана на падставе матэрыялаў архітэктурнага праекта, разгледжанага і ўхваленага Навукова-метадычнай радай, што адлюстравана ў пратаколе яе пасяджэння ад 04.06.1999 г. № 53. У адпаведнасці з лістом Нацыянальнага мастацкага музея ад 20.03.2004 г. № 0П7сг-о распрацоўка той часткі дакументацыі, якая вызначае знешні выгляд печаў, была завершана папярэднім генеральным праекціроўшчыкам УП "Група СТС".

Пасля атрымання станоўчага заключэння органаў дзяржаўнай экспертызы праектаў пры Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва архітэктурны праект "Рэстаўрацыя і прыстасаванне помніка архітэктуры ХУІ-ХХ стагоддзяў замкавага комплексу ў г.п. Мір Гродзенскай вобласці" быў зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 студзеня 2006 г. № 77.

Месцы размяшчэння печаў прыняты з улікам аналізу асаблівасцей аб'ёмна-пластычнага і канструктыўнага вырашэння памяшкання: дзве з іх размешчаны каля шырокіх міжваконных прасценкаў, у тоўшчы якіх месцяцца дымаходныя каналы, адна прыбудавана да ўнутранай сцяны, у якой таксама знаходзіцца дымаходны канал, у месцы, што з'яўляецца адзіна магчымым для палення печы з суседняга памяшкання, традыцыйнага для перыяду Рэснесансу. Прымаліся да ўвагі і іншыя акалічнасці, напрыклад, наяўнасць пад пляцоўкамі печаў падпіраючых іх сцен на ніжнім ярусе палаца.

За аснову аб'ёмна-прасторавага рашэння печаў прыняты рэканструкцыі, выкананыя аддзелам археалагічных даследванняў, які дзенічаў у 1980-я гг. у складзе НДПБ СНРВМ Міністэрства культуры (пазней інстытута "Белспецпраектрэстаўрацыя"). Пры гэтым памер запраектаваных печаў крыху зменшаны ў параўнанні з іх рэканструкцыяй, што абумоўлена вышынёй размяшчэння ў сценах адтулін дымаходных каналаў, памерамі выкарыстанай для вымуроўвання ўнутраных аб'ёмаў печаў цэглы канца XVI - пачатку XVII стст., кратнасцю знешніх памераў печаў памерам кафлі, рэканструяванай па матэрыялах археалагічных даследаванняў замка 1980-х гг., цеплатэхналагічнымі характарыстыкамі залы, аб'ём якой складае каля 1000 куб. м (тры сцяны і столь якой мяжуюць з халодным знешнім атачэннем, наяўнасць дзевяці вялікіх вокнаў з металічнымі і каменнымі рамамі, зашклёнымі ў адну нітку).

Пры праектаванні печаў былі выкарыстаны і пэўныя аналагі з тэрыторыі Полыпчы і Чэхіі, што абумоўлена адсутнасцю аўтэнтычных вырабаў як у Беларусі, так і ў іншых суседніх краінах.

Цыліндрычнае завяршэнне адной з печаў не мае абсалютна круглага абрысу. Складаецца яно з нескругленых прамавугольных кафляў, таму знешняя паверхня мае гранёны перыметр. Пры гэтым, у перыяд Рэнесансу ў еўрапейскіх краінаў тып печы з кубічным нізам і цыліндрычным з гранямі або без іх верхам быў дастаткова распаўсюджаны, а ў польскіх крыніцах падаецца як "традыцыйны".

У першым вядомым інвентары Мірскага замка, датаваным 1688 годам, пры апісанні печаў часцей за ўсё ўпамінаецца толькі характарыстыка кафлі (колер, наяўнасць палівы і г.д.). Вельмі рэдка, але згадваецца "печ круглая", аднак характарыстык іншых форм у апісанні няма.

Такім чынам, з улікам акалічнасцей выпрацоўкі канцэпцыі аднаўлення першых двух адсекаў палацавай часткі Мірскага замка на перыяд яе стварэння (1594 г.), праектам прадугледжана выкарыстанне, як памянёнай вышэй "традыцыйнай" формы рэнесансных печаў, так і болып рэдкай для перыяду будаўніцтва комплекса з верхам у выглядзе паралеліпіпеда.

Усе праектныя рашэнні на выкананне работ у Замкавым комплексе "Мір", згодна з артыкулам 43 Закона, выносяцца на разгляд Навукова-метадычнай рады, у рабоце якой, акрамя яе пастаянных членаў, звычайна, прымаюць удзел спецыялісты розных накірункаў, у тым ліку археолагі, гісторыкі, архітэктары, музейныя работнікі. У ходзе яе работы рашэнні па прадстаўленай для разгляду дакументацыі прымаюцца адкрыта, абмежаванняў для ўнясення абгрунтаваных прапаноў і заўваг няма.

**Намеснік Міністра У.П. Грыдзюшка.**

# Мама!

Мне шмат хто з маіх калегаў і сяброў, старэйшых і малодшых за мяне, зайздросцілі, казалі: «Ты шчаслівы, Уладзя! У цябе ёсць мама! А мы даўно забыліся, калі гэтае слова пяшчотна прамаўлялі!»



***Уладзева маці Содаль Аляксандра Несцераўна з Карабанавых. Вясна 2007 г. Толькі што пасадзіла бульбу! Хай Бог яе родзіць!***

І от 20-га студзеня 2008 года, у дні Хрыстовага Хрышчэння, маёй маці не стала. Яна пайшла ў іншы свет. Кажуць, хто пакідае белы свет падчас такіх святаў, як Хрыстова Хрышчэнне, той трапляе ў рай. Што ж, мая матуля вартая гэтага. Яна хоць і была простая сялянка, але чалавечай годнасці і высакароднасці ёй не трэба было пазычаць. Высакароднай і велічнай яна выглядала і ў прыёмным пакоі бараўлянскай лякарні ў бальнічнай каталцы 19-га студзеня, за дзень да смерці. Была яна разважлівая, у мінулым годзе ёй прапанавалі стымулятар на сэрца, але папярэдне яе папрасілі пачуць нашу згоду. На што матуля сказала: «Дзеці мае, калі хочаце, каб я з вамі пабыла яшчэ, не чапайце мяне!»

Колькі з ёй усяго перагаворана, згадана! У апошнія гады без паперы і асадкі я з ёй не размаўляў. Натаваў усё: і сюжэтныя расповяды, і паасобныя слоўцы. Помаўкі і прымаўкі. Усё моўленае ёю, вартае нашай увагі, нашай мовы. Яна ніколі не крыўдавала, калі праз нейкі час я прасіў паўтарыць той ці іншы яе расповяд, і яна ахвотна распавядала. Сюжэт заставаўся той жа, але моўна ён чым-небудзь розніўся. Сінтаксічна, лексічна.

І мяне гэта цешыла. Я радаваўся кожнаму яе слоўку, часам ужо прызабытаму нашай сённяшняй пісьмовай практыкай.

За апошнія гады запісаў ад мамы ў мяне намножылася не на адзін агульны сшытак. З цягам часу ўсе гэтыя запісы стануцца набыткам нашага духоўнага жыцця. А пакуль – бывай, мама!

Хай пухам Табе будзе астрашыцкая зямля! Калі-небудзь, пры нагодзе, я прывязу на тваю магілку і мяшэчак нашай роднай зямлі з нашага роднага Мормаля, дзе ты нарадзілася, узгадавалася, зведала і радасці, і горасці. А найбольш – апошняга. Я ўсё гэта помню. І пакуль буду жыць я, будзеш жыць і ты!

**Твой Уладзя, Ладымер.**

*Таварыства беларускай мовы выказвае шчырыя спачуванні сябру Рады ТБМ Уладзіміру Содалю, яго сям'і з прычыны вялікай страты, смерці матулі* ***Аляксандры Несцераўны Содаль.***

*Слухайце слова Гасподняе, князі Садомскія; уважай закону Бога нашага, народе Гаморскі. Біблія. Кніга прарока Ісаі, раз. І, ст. 868*

***Алесь Макоўскі***

# Жыццё і Слова

Без пяці мінут настаўнік беларускай мовы і літаратуры Змітрок Сантаровіч едзе на замурзаным аўтобусе да бацькоў на летнія вакацыі. Пакуль наш руплівец калываецца па пылаватай дарозе самы час бліжэй прыгледзецца да яго.

Настрой у хлопца неблагі. Пасля пакутлівых разважанняў выбраў тэму дыпломнай работы і ўжо пачаў пісаць. Тэма патрыятычная і, адначасна, узнёслая: «Творчасць Уладзіміра Караткевіча — яскравы прыклад служэння Радзіме.»

Змітрок натура ўражлівая і чуйная, нават рамантычная. А як жа інакш! Дзелавыя, ухвацістыя хлопцы сёння грошы закалочваюць, а ён сам сабе намаляваў такую няпэўную будучыню. Каб не жыў паэт у душы — хіба на такое можна адважыцца? Праўда, точыць чарвяк, ой, точыць нутро. У кожны свой прыезд хлопец пільна ўзіраецца не толькі ў знаёмыя з маленства краявіды, але прыглядаецца да вяскоўцаў, іх жыцця. Нібы хоча прыдушыць таго чарвячка, цыкнуць на яго, каб не дакучаў.

Тое-сёе з пачутага і ўбачанага радуе, натхняе, абнадзейвае. Шмат што бянтэжыць, засмучае, цісне на грудзі. Тады паганы чарвяк ажывае, квеліць душу, казыча сэрца. Можа падсвядома, а хутчэй зусім асэнсавана, Змітрок пакутліва аналізуе жыццё вёскі і вяскоўцаў. Хоць сам сабе не прызнаецца, а дзеля яго — чарвячка.

У такія горкія хвіліны, возьме і паразважае. Вось, свеціць сонца. Яго ласкавае цяпло патрэбна людзям? А ці атрымлівае асалоду ад сваёй нястомнай працы яно само? Зелянее трава-мурава. Яна ж не так сабе песціць вока. Ці скардзіцца на свой лёс, калі кладзецца ў пракосы? Трэліць птушка, пахне кветка, зноў-такі — сабе ў ахвоту і на замілаванне людзям. А чалавек? Канкрэтна ён, Змітрок Сантаровіч, і яго навука? Прынясе ён карысць людзям і ўцешыць сваю душу? Ці ўсё кату пад хвост? Чарвячок, аказваецца, няпросты, усяляе трывогу, хваляванне. Каб ён спрах гэты чарвяк!

Змітрок любіць сваю зямлю і ўсё, што на ёй жыведыхае. Яшчэ ён любіць Слова. Не лішне будзе, так мяркуем, вынесці на суд шаноўнага чытача яго спробы праявіць сябе ў прыгожым пісьменстве. Не. Вершаў ён не піша. А што тычыцца прозы, то трошкі крэмзае. Як яно атрымліваецца — меркаваць вам. Першая спроба пяра і, вядома ж, пра Слова. Дакладней, пра Слова і яго ратавальнікаў — студэнтаў. Змітрок перакананы: будучыня беларускага слова ў руках мажлівых настаўнікаў, аграномаў, урачоў, эканамістаў, інжынераў, юрыстаў...

А каб Слова глыбока ўкаранялася і вечна жыло — яму патрэбна маліцца. Як гэта рабіць і што гаварыць? А вось так, як ён, Змітрок, выпакутаваў:

**Малітва студэнта Слову**

«Любае, шаноўнае Слова! Вітае цябе студэнт Змітрок, нізка кланяецца, схіляе сваю галаву. Хачу пакаяцца за ўсе здзекі, што чыніліся і чыняцца над тваёй святасцю. Даруй нам, абармотам, грахі нашы цяжкія, за тое што не шануем, нявечым, калечым, ганьбуем цябе.

Ты ж, Слова, маеш душу, сэрца і розум, смак і колер, цану і вагу, сілу і аўтарытэт, бываеш пяшчотным і гнеўным, салодкім і горкім, цнатлівым і гаючым, цярплівым і ўтрапеным, добрым і злосным, гарачым і халодным, жыватворным і смяротным...

Ты, Слова, было першым. Ты нам Госпадам дадзена на векі вечныя. Каб нам добра жылося, працавалася, пілося, елася і яшчэ хацелася. Каб з роду у род у нас не нараджаліся нямтуры і самаеды. Каб добрыя людзі хінуліся да нас, а мы да іх. Каб мы і нашы дзеткі славілі Бога, неба і зямлю. прызнаваліся ў каханні, радаваліся і гаравалі, смяяліся і плакалі, шчыравалі ў працы і адпачывалі, нараджаліся з табою і дзеля цябе, Слова.

Табе, Слова, цяжка. Ты, нібы рыба, выкінутая з вады на бераг рэчкі, нібы кветка, вырваная з карэннем, як вольны чалавек за кратамі. Але ты, Слова, не адчайвайся. Мы, студэнты, уратуем і зберажэм цябе. Нас многа, мы маладыя, няўрымслівыя, дужыя, апантаныя. Мы цябе, Слова, любім і захаваем...»

Вось такая малітва Слову атрымалася ў Змітрака. А цяпер скажыце: хіба хлопец не рамантык? Яшчэ які! То, што з яго узяць... Ён жа яшчэ і не на такое здатны! Думае, раз ён да людзей з адкрытым сэрцам і душою, чыстымі думкамі, дык і яму павінны плаціць той жа манетай. Не, браце, так у жыцці не бывае, лепш рот трымай на замку, сапі ў дзве дзіркі, варушы сваю справу, а там — Бог-бацька. Хіба хлопец прыслухаецца да добрай парады? У яго сваё ў галаве, сваё карціць, ён свае гне.

Але ж і чаканы аўтобус ужо навідавоку. Выкаціў з-за таполевых прысад. Як там, наш Змітрок, пачуваецца? Нічога, дзякаваць Богу. Пружыніста скочыў на зямлю, камусьці адсалютаваў рукою, ускінуў на пляча спартыўную сумку. Белабрысы, стройны, нават худаваты (ён жа не сынок новага беларуса ці багатыра-начальніка). Загарэлы, валасы русыя, кароткія, але густыя і шорсткія — характар! Позірк дапытлівы, але не дзёрзкі. І ў гуморы. Толькі носам круціць. Гэта аўтобус патыхнуў смуродам і пакаціў да цэнтра калгаса. Аблачынка едкага дыму рассеялася, запахла гаркаватым дымам. Нічога, Змітрок, душу сваю адвядзеш і ўлагодзіш у лесе.

Лес — рукой падаць. Перайшоў дарогу, два крокі і ты нібы нанава нарадзіўся. Ісці два км. Так сведчыць указальнік і ты гэта добра ведаеш...

Насыпная, торная, убітая коламі аўтамабіляў, трактароў, фурманак даволі шырокая дарога. Паабапал векавы яловы лес з густым пахам смалы і кары. Пракідваюцца ніцыя бярозы і трапяткія асіны, скрозь купчасты арэшнік, там-сям імкнуцца увысь разгалістыя дубы — іх тут сойкі «пасадзілі». Гэтак жа як рабіну, а яна тут таксама сустракаецца — "пасеялі" дразды.

А хто гэта грукоча ажно рэха па лесе ляціць? Мабыць, лясны доктар. Трэба пацікавацць што за штукар.

...Трэснуў сухі сук пад нагою і дзяцел змоўк. Сцішыўся і Змітрок. Прыхінуўся плечуком да шурпатай кары старой хвоі, чакае. Немаведама чаго, у грудзях моцна закалацілася сэрца. Усміхнуўся: «Як дзіця.» Дзяцел зноў зашчыраваў, ужо зусім побач. Не кранаючыся з месца, задраў галаву, паўзіраўся. На зламанай бурай тоўстай, у абхват, асіне, прыліп да ствала і цяслярыць чорны дзяцел. Верхавіна асіны валяецца непадалёку і ўжо струхлела. Ды, Бог з ёю, з верхавінай! Жаўна! Чорны дзяцел! Не так часта пашчасціць сустрэць. Дзівосны экземплярчык! Вялікі, з галку, сапраўды чорны як смоль, ажно блішчыць, з чырвонай шапачкай на цемені: выліты кардынал-каталік. Доўгай, светлай дзюбаю крышыць ствол, ажно трэскі ляцяць. То на момант сціхне і як злодзей, дзікавата вызірне з-за ствала. Змітрок не хацеў яго пужаць, але аступіўся, ледзь не грымнуўся, нарабіў шуму. Дзяцел узляцеў на самую макаўку высокай, кудлатай ёлкі, трывожна і прарэзліва закрычаў: ткля-я. На яго мове, мабыць, небяспека. А можа, што іншае сказаў добраму лесу і яго насельнікам.

Пакуль выкіроўваў з гушчару, натрапіў на сонечную сунічную палянку. Паміж рэдкага папаратніку чырванелі буйныя духмяныя ягады. Не ўтрымаўся, паставіў сумку, назбіраў жменю і, каб адчуць асалоду, па каліву кідаў сабе ў рот. Падсохлая сямейка рыжых лісічак выклікала лёгкі сум: ні сабе ўцехі, ні людзям радасці. Нічога не папішаш, даўнавата дажджу не было. Дарога паварочвала і адразу пачынаўся стромкі спуск з высокай гары. Унізе, у глыбокай седлавіне, цячэ ціхаплынная рэчка Вуса. На правым беразе яе прытулілася вёска Павуссе. Вада ў рэчцы крынічная, халодная, да ламаты у зубах. Не зважаючы, дзетвара плешчацца да пасінення. Вуса тут, паблізу, бярэ пачатак, пасля блытаецца паміж аселіц, сенажацяў, лугоў, парослых лесам і хмызам гор і ўзгоркаў. Утварае маляўнічыя лукі, ажно пакуль не трапіць у абдымкі бацькі Нёмана. Вуса — дачка яго. Пра рэчку згадвае ў сваёй манументальнай працы «Беларусы» Яўхім Карскі. Цвердзіць, што этымалогія назвы мае літоўскія карані. Можа і так. Для яго, студэнта-філолага акадэмік Карскі аўтарытэт беспярэчны.

З гары вёска бытта на далоні. Змітрок прыпыніўся, хацеў трохі памілавацца на гожую панараму, ды зашаргацелі аб пясок колы. Азірнуўся, з ровара спешвалася незнаёмая маладая, з невыразным тварам і чарнатой пад вачамі, жанчына.

— Мусіць, баіцеся ехаць з гары? — адказаў на вітанне і весела пацікавіўся Змітрок.

— А то как же! Гора-то крутая-то,— адказала і ўсміхнулася жанчына. Сумненняў быць не магло: з прыхадняў. Іх тут, у цэнтры калгаса, атабарылася за апошнія гады шмат. Чыста расейская вымова сведчыла, што з прыхадняў далёкіх. Магчыма, з Казахстана. Адтуль ўцякае і асядае па беларускіх вёсках больш за ўсё. Ёсць сярод іх людзі працавітыя, прыстойныя. але шмат і аблудных. Такіх вяскоўцы клічуць валацугамі і прыблудамі. Гэта «гора-то крутая-то» разанула Змітраку слых. Мільганула думка: у лагодным лесе і «трасянка» не так рэжа вуха. Яны спускаліся з гары побач і каб нешта сказаць, не маўчаць, як вады ў рот набраўшы, спытаў:

— Па якой патрэбе да нас? Калі невялікі сакрэт...

— Так, ведь, Катерина-то ногу сломала. Вот здесь, на горе-то. Тормоза-то отказали у велосипеда. Я теперичe почту вожу.

Кацярыну Доўнар, іхнюю паштарку, ён, вядома, ведаў. А вось, што яна зняверчылася — пачуў упершыню. Дзіва што, два месяцы не наведваўся да бацькоў. Сесія, пасля тлум з дыпломнай...

— А Сантаровічам маеце што даць? То я забяру, каб вам не ехаць у канец вёскі"

Спытаў, хоць добра ведаў: ёсць. Выпісаў бацькам, праўда, за іхнія грошы, адну рэспубліканскую беларускамоўную і раённую газеты.

Жанчына прыпынілася, не знімаючы з руля ровара цэлафанавы пакет, закорпалася ў ім, зашалясцела, дастала газеты і працягнула хлопцу. Змітрок яшчэ падумаў: «Не надта шануюць друкаванае слова землякі».

Спусціліся ўніз, на мосце цераз рэчку жанчына села на свой рыпучы ровар, націснула на педалі, паехала. Змітрок, так ён заўжды рабіў, калі пераходзіў мост, абапёрся на іржавую металічную парэнчу, прыслухаўся да роўнага шуму вады цераз плаціну. Унізе, там, куды падала вада, паміж цёмных камянёў і каменьчыкаў паблісквалі серабрыстай луской печкуры, выгіналіся вусатыя сліжы і верацяніцы. Далей, па цячэнні, рэчка раздвойвалася і ўтварала невялікі астравок з высокімі і густымі купінамі асакі. Там і сёння ў задуменні стаялі на сваіх доўгіх чырвоных нагах два буслы. Усе як заўжды і кожны раз усё нанава.

Змітрок адарваўся ад парэнчы, наважыўся пакласці газеты ў сумку. Ды. што гэта? Вось дык навіна! Раённая газета была «Чырвоны сцяг», а стала «Красное Знамя». Няўжо?! Так і ёсць, чорным па беламу: «Газета выходнт на русском языке.» Нейкі момант стаяў у здранцвенні, думкі блыталіся і набягалі нібы хвалі адна на адну, зашчымела сэрца, прыкрасць і крыўда паланілі душу. Уявіў бацьку вольнай вечаровай хвілінай на канапе з акулярамі на носе, з «Красным Знаменем» у руках. Недарэчнасць! Таропка палез у нагрудную кішэню джынсавай курткі, дастаў мабільны тэлефон, набраў нумар знаёмага журналіста. Доўга ніхто не адказваў, пасля:

— Алё?

— Мікола! Прывітанне. Змітрок турбуе. Як мацуешся? Што за фокусы?! Узяў у рукі тваю газету і не веру сваім вачам! Даўно?

— Нядаўна.

— Чыя ініцыятыва? Зверху ці знізу? Маўчанне. Няёмкае і тужлівае. Урэшце:

— З сярэдзіны,— і ненатуральны смяшок.— Ты ў бацькоў? Завітаў бы... не па тэлефону ж... Пасядзім, па чарцы возьмем. Пагамонім...

— А што цяпер языкамі малаціць?! Цьфу. Каб яно ўсё спрахла. Мацуйся...

Вось дык прыкол! Як жа так? Тут, у цэнтры Меншчыны і Беларусі, дзе чысцюткая, як сляза, мова?! Ён жа ведае, ён філолаг. Менавіта, мова цэнтральных раёнаў легла ў аснову сучаснай літаратурнай мовы. І гэта сказана не ў крыўду астатнім. Вунь, Гарэцкі, з Магілёўшчыны, а чытаеш — ўсё той жа смак. Нібы мёд п'еш. І так паўсюдна. Брыль — з Гарадзеншчыны.

Той жа мёд, смак і асалода. Ды што там казаць! Як пчолы ў соты носяць нектар, так усе, пакрысе, вякамі выкрышталізоўвалі яе, родную...

Яшчэ здалёк Змітрок пачуў брудную лаянку. Знаёмы крыклівы голас Раісы Бязмен, першай ў вёсцы пляткаркі і звадыяшкі, прысадзістай бабы-кадушкі, з чалмой (так яна павязвае цёплую чырвоную хустку) на галаве. Як толькі ў такую гарачыню качан не адапрэ! Лаецца на чым свет стаіць: з нагоды і без, дома і на вуліцы, пры дзецях і старых. У мінулы свой прыезд Змітрок падслухаў, як яна, тут жа, ля крамы, апавядала жанчынам пра свае адведкі, быццам бы хворай Таццяны Шыбіцкай, таксама нястрымнай на язык. Вечарам, седзячы ў святліцы, паспрабаваў перадаць тое на паперы. Па завядзёнцы расейскіх тэлежурналістаў (ашалелі яны там, ці што?) мат пазначаў шматкроп'ем. Вось што атрымалася.

— Прыходжу... А яна......, сядзіць раскірэчыўшыся... Тэлевізар..., глядзіць......Рэйтузы рваныя... На стале..., скаварада... з салам. У хаце... чорт нагу... зломіць...

Самому стала агідна, кінуў тады ручку. «Бяднее, ой, бяднее духоўнае жыццё вясковага электарату,— самоціцца Змітрок.— Вясковы чалавек паўнее целам, ды худзее душою. Гэта факт.»

Паслухаць пра што і як гавораць тубыльцы, яго землякі, то і жыць не захочаш. Што ні слова, то мат-перамат. І такія з пяці-сямі слоў будуць паверхі! Мужчыны і жанчыны, хлопцы і дзяўчаты, нават дзеці. Здаецца, языкі паабразаў. Урэшце, і ў горадзе тое самае. Але ў вёсцы мудрэй. Проста нейкае наслаенне. Каб з гэтых канструкцый-паверхаў можна было свінарнікі і кароўнікі, зернетакі ўзводзіць — мы, беларусы, па архітэктуры і дызайну пераплюнулі ўсіх у свеце. Хіба расейцы наперад рванулі. Ім роўных няма. Як жа ратавацца?

Начальства новую вёску лепіць, яму часу не стае. А царква? Нядаўна Змітрок быў на вяселлі аднакурсніка. Перад размеркаваннем хлопцы заварушыліся. Яно і зразумела. Прыгожа, улежна і ўежна, кожнаму жыць хочацца. Сябра — акаталічаны беларус, але цывілізаваны чалавек. Праўда, бацькі яго настаялі, шлюб маладыя бралі ў касцёле. Хоць дзяўчына праваслаўная. Цяпераka і яна каталічка. На вяселлі яго радня адасобілася, сядзела сваім гуртам, яе — сваім. Праваслаўны люд глушыў гарэліцу, а каталікі выпілі па чарцы і адно спявалі «Сто лят», ды нешта пра Польшчу, якая ніколі не згіне. Былі на вяселлі, з яго боку, вясковыя дзядзькі і цёткі, як яны самі пра сябе кажуць — заходнікі. Пыхлівыя і фанабэрыстыя. У Змітрака нават сэрца зашчымела. Горка падумаў: «Што гэта мы, беларусы, за Божае стварэнне? Гэныя адмаўляюць нам у самабытнасці, але падхвальваюць. А гэтыя і не прызнаюць, і не хваляць.»

Змітрок з адным вусатым дзедам усё ж разгаварыўся. Пацікавіўся, ці п'юць і мацяраоцца ў іх? І як яны змагаюцца з брудам?

— Нам не трэба ні загадаў, ні ўказаў,— з пагардай адказаў «чыстакроўны паляк»,— У нас ёсць касцёл і ксёндз. Скажа, у час пасяўной ці ўборачнай не піць — ніхто грама ў рот не возьме. Сказаў не лаяцца, бо грэх — кожнаму мову заняло...

*Алесь Макоўскі нарадзіўся ў 1943 годзе ў в. Павуссе Дзяржынскага раёна Менскай вобласці. Скончыў будаўнічае вучылішча і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Тры гады служыў у Савецкай арміі, працаваў мулярам на будоўлі,наладчыкам на заводзе, літсупрацоўнікам у газетах «Ленінскі прызыў» г. Оршы, «Трактар», загадваў аддзеламі рабочай і сельскай моладзі газеты «Чырвоная Змена». Працаваў у часопісе «Вожык», загадчыкам выдавецка-інфармацыйнага цэнтра Нацыянальнага банка Беларусі, рэдактарам часопіса «Банкаўскі веснік»*

*Алесь Макоўскі — аўтар дзвюх кніг нарысаў. Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў сатыры і гумару «Крышталъная душа» і «Патрэбны чалавек», кнігі прозы «Ранішняя дарога».*

Алесь Макоўскі

# Жыццё і Слова

«Чаму ж царква і поп не маюць такога аўтарытэту і ўплыву на сваіх прыхаджан? — кволіцца думкамі Змітрок.— Людзі толькі зрэдзь часу наведваюцца ў храм Божы? Толькі па святах? То, вазьмі, святы айцец, ды выступі ў газеце «Красный шворон», цяперака яна на рускай мове выходзіць, язык не трэба ламаць. Раскажы людзям, што лаяцца — душу сваю д'яблу прадаваць. Што кожны з нас акружаны аўрай, яна нас ахінае ад усялякай пошасці. Скажаш бруднае слова — у аўры дзірка, Люцыпар пляскае ў далоні, радуецца, бярэ жменю бруду — плясь табе на душу. Таму/ душа ў аднаго нібы вясёлка, а ў другога — ануча з бота трактарыста. У аднаго чакру адкрыеш — пах прыемны, у другога — смярдзіць нібы з памыйнай ямы. Форткі ў кватэры трэба адчыняць.

Пра аўру і чакру, шмат яшчэ што, Змітраку апавядаў знаёмы экстрасэнс. Пэўна, пра тое самае павінен ведаць і поп. Вось і выступі ў друку, бацюшка, прама скажы людзям: не крыйце матам налева і направа — не губіце свае душы. Можа, хто і прыслухаецца... Тады і аўтарытэт намалюецца, прыхаджане будуць у царкву валам валіць. А яшчэ, каб з амбону на роднай мове!.. Не тарабаніць, а па-людску. Каб зразумела было і людзям, і Богу.

— Во, гарадскія на свята прыджгалі,— не паспеў Змітрок павітацца, загаварыла Раіса Бязмен і вачамі абмацала паставу хлопца.— Нябось, маці ўжо яечню спякла, чакае. Што, Змітрок, чуваць на белым свеце?

«Так я табе і паспавядаўся,— падумаў Змітрок.— Слова скажы, ты дзесяць дапляцеш. Пасля будзеш бегаць па завуголлю, ляскаць языком. Такім дзёгцем выпацкаеш — не адмыешся.»

— На белым свеце ўсё ў ажуры. Чаму ён і называецца белым,— сціпла ўсміхнуўся Змітрок.

Такі адказ не сказаць, каб задаволіў звадыяшку, яна чмыхнула носам, стушавалася. Толькі хітрыя, круглыя вочкі, працягвалі абшукваць хлопца.

— Мой жа ўнук учора надвячоркам прыехаў,— загаварыла Паўліна Невяроўская, старая, але яшчэ рухавая кабета.— Прыходзь Змітрок. Заўтра ж Сёмуха — вялікае свята.

— Прыехаў Пятрусь? — перапытаў Сантаровіч.

— Прыехаў, прыехаў. Прыходзь, сынок...

Усталявалася цішыня. Прыляцеў, закружыўся над галовамі калматы чмель, жанчыны замахалі рукамі, бзынкалі мухі і авадні. З ліпы лёгкі ветрык сарваў дачасна зжаўцелы лісток і ён кружыўся ў паветры, падаў. На выгане зарыкала карова — жанчыны насцярожыліся. Неўзабаве пастух будзе гнаць з пашы на даенне і, кожнай трэба вылучыць сваё быдла са статку. Уласна, яны тут, каля магазіна і топчуцца дзеля гэтага клопату. Як і мужчыны, што сядзяць воддаль на лаўцы пад Марыльчынай ліпай. А што выбраліся загадзя? Такая завядзёнка. Дзе і калі, як не тут, пагамоніш, даведаешся пра апошнія навіны-плёткі. Казаламазала-размазала. Казаў-пэцкаў-выпацкаў. Дзеля гэтага і работа пачакае. Толькі лаўкі няма, каб даць адпачыць навярэджаным нагам. Была, была лаўка. Стаяла вось тут, пад гэтай карабатай знізу і гладчэйшай вышэй, старой высокай бярозай. Зламалі тутэйшыя наркоты. Кабеты іх клянуць. Абібокаў цяпер у вёсцы хапае. Неяк з бацькам пачалі лічыць: колькі на семдзесят двароў маладых хлопцаў і мужчын, якія нідзе не працуюць, а піць — п'юць? Дзесяць чалавек ва ўзросце ад дваццаці да пяцідзесяці гадоў. Жанчын не лічылі. Хаця тыя жлукцяць барматуцу мудрэй чым мужчыны.

— Вось, усе кажуць: Сёмуха, свята,— ачуняла Раіса Бязмен.— А людзі летась рабілі. На свае вочы бачыла. Стукалі-грукалі... Ды і якое свята! Вось паглядзіце заўтра. Гэта раней і музыка, і танцы, і маёўкі. А цяпер...

— Дык і ты ж летась на Сёмуху корпалася ў агародзе. А твой бязбожнік дровы калоў,— астудзіла праведніцу маладая і бойкая Паліна Улалевіч.— Я таксама на свае вочы бачыла — абгаворваць не стану...

Пакуль кабеты не схапіліся за космы, Змітрок вырашыў лепш падацца да мужчын. Пляткарства, звады — не для яго. Надта ўжо атрутныя. Гэта яшчэ з часоў Адама, ад змея, які спакусіў Еву. У плётках зашмат змяінага яду.

Калі ў згорбленай сівой, сухенькай, зморшчанай ў крук, з лыжнай палкай ў руцэ, цікаўныя дапытваліся колькі гадоў яе ліпе, бабуля Марыля чэсна прызнавалася: не ведаю. І ахвотна пачынала лічыць свае гады. Згадваліся войны, смерці, радзіны і вяселлі — атрымлівалася дзевяноста. Пры тым, бабуля ўпэўнена цвердзіла: пад гэтай ліпай ў маленстве яна гуляла ў хованкі і дрэва было, як абняць.

А ліпа — сапраўды на заглядзенне, на ўсю вёску. А можа нават і на цэлы раён. Роўная, як свечка. Побач стаіць слуп электраліініі, то ліпе ён па калена. Каб аперазаць камель — не хапіла б папруг гэтых пяці мужчын, якія зараз сядзяць пад ёю. Знізу шырокая і разлапістая, галіны да самай зямлі звісаюць, бліжэй да верхавіны звужаецца на конус. І густая, густая. Цень і зацішак упадабалі вераб'і. Іх тут — процьма. Крона варушыцца. Бывае ўсчыняць гвалт — ўсё навакалле калоціцца. Трохі ліпавы ліст пэцкаюць, ён ажно шэры... Але гэта пакуль ліпа не зацвіце жоўтым, духмяным мядовым цветам. Тут ужо днём гаспадараць пчолы і ліпа гудзе ад іх. А на ноч кватараваць прылятаюць вераб'і. Пасядзець, адпачыць збіраюцца мужчыны. Вечарам — моладзь. Лепшага месца для прызнання ў каханні не адшукаць. Густы, салодкі пах ліпы найлепшы памагаты ў гэтай справе.

Змітрок «падобрыдзенькаўся», мужчыны адказалі і хацелі пацясніцца, даць хлопцу месца. Але лаўка нядоўгая і сядзелі шчыльна. Урэшце, Антон Дыбіцкі, які па слова ў кішэню ніколі не лез, чалавек прамы, без цырымоніяў, звярнуўся да Фені Лушчыцкай, маладзіцы, якая сядзела на ўскранку раўкі.

— Слухай, Феня. Колькі ты будзеш сядзець тут? Ідзі ты ўжо да баб. Дай месца хлопцу.

Феня падскочыла нібы ашпараная.

— Сядзеце, сядзеце... Я пастаю. Такой бяды, такой бяды,— заспяшаўся і знiякавеў, ад такога павароту падзей, Змітрок.

Гэта «такой бяды, такой бяды», сказанае па-вясковаму, надта спадабалася мужчынам. Яны падабрэлі тварамі, заўсміхаліся.

— Ідзі, ідзі, Феня. Без цябе нам будзе весялей,— жартаваў Дубіцкі.

— Ну і пайду. А ты, Змітрок, сядай. Мне ужо самой апрыкрала слухаць іхнюю балбатню,— маладзіца, знарок віхляючы задам, падалася да гурту кабет.

Гаворка вілася вакол прыкрага здарэння, якое ускалыхнула ўсю вёску. У васьмідзесяцігадовага дзеда Данілы, Камарыцкага ўкралі скрыпку. Не зусім, каб сціబрылі, проста аблапошылі яго жонку.

Сам Даніла, паводлуг сваёй гаспадыні, стары борзды. Ён на пенсію ішоў, было гэта за тымі камуністамі, у канторы калгаса яму прысвяцілі насценную газету. Павіншавалі, але і сяброўскі шарж намалявалі. Падымае Камарыцкі штангу, а ўнізе подпіс: «Што збіраецеся рабіць на пенсіі?» І адказ Данілы: «А ты што, не бачыш?!» Вясною Змітрок напаткаў дзеда, пагледзеў на яго лёгкую паходку і па-добраму пазайздросціў: калі ўжо дажываць да глыбокай старасці, то да такой.

Шырокі ў косці, каржакаваты, сцісне пальцы ў кулак — міжволі задумаешся (як ён толькі трапяткую скрыпку і смык умудраўся ў такіх руках не раздушыць, а віртуозна граць!). Трохі пануры. Ніякі не весялун. Хто не ведае, то можа падумаць — звераваты і сугней. Але гэта не так. Проста дзед Даніла чалавек нешматслоўны, сам у сабе. А што ўнутры творыцца, да гэтага нікому справы няма. Трошкі нос вялікі, з гарбінкай, сагнуты да нізу, псуе лагодны выраз твару. Але з твару вады не піць. Хоць на вяселлях шалапуты падсмейваліся: дзед Даніла грае не смыкам, а носам. А ён бывала схіліць галаву так, што нос ледзь струн не датыкаецца, вочы заплюшчыць і трэба ,табе польку-трапятуху — танцуй да ўпаду, папросіш «юрачку» ці вальс — калі ласка. А граць навучыўся ад свайго бацькі. Той і скрыпку ў спадчыну перадаў.

Даніла сядзеў на другім канцы лаўкі, звесіўшы галаву і ўтупіўшыся вачыма ў дол, пануры і маўклівы, нейкі надта кіслы. Мужчыны і так і гэтак, з усіх бакоў, абсмоктвалі навіну і Змітрок спаўна ўявіў, як тое было.

Дзед Даніла жаніў унука. Ён і сам яшчэ сыграў бы вяселле, каб на пару з добрымі гарманістам, цымбалістам і каб было каму біць у бубен, але унук закапыліў нос, зажадаў ансамбль. Стары паслухаў, паслухаў тую музыку, пагледзеў, як цяпер вытанцоўвае моладзь і сказаў: «Шмат грукату, енку. І скачуць бытта камары кашу таўкуць летнім надвячоркам.» Кудлаты хлопец-бубеншчык, угледзеў на старым камодзе скрыпку (Даніла яе зрэдзь часу браў ў рукі) і прыліп: «Прадай.» Даніла усміхнуўся, пакруціў галавою і схаваў інструмент у шафу, ключ паклаў ў кішэню выхаднога пінжака, апранутага з вядомай ўжо нагоды. Хлопец той быў добры дзялок і пранырa, а можа хто з тутэйшых паскуднікаў падказаў. Праз тыдзень наведаўся на легкавіку, якраз тады, калі старога не было ў хаце, вось як цяпер, пайшоў вылучаць карову з чарады. Што там было, як было, аднак скрыпка апынулася ў руках таго архараўца. За пяцьдзесят тысяч прадала гаспадыня — два з паловай кіло вясковай каўбасы. А інструмент — пашукаць. Не фабрычны. самаробны. Даўнейшай работы. Кудлаты ведаў толк у скрыпках.

— Два тыдні — ні чорнага, ні белага. Маўчыць. Толькі старой сказаў: ты прадала маю маладосць,— нахіліўся і прашаптаў на вуха Змітраку Дубіцкі.

Змітрок крыху падаўся наперад, каб лепей бачыць дзеда. Той сядзеў усё гэтак жа сутуліўшыся, паніклы, як дзіця, бездапаможны. Шкада стала старога: «Сядзіць колішняя Беларусь,— падумаў Змітрок.— Яе абакралі. Забралі душу, музыку, песні... Цяпер дабіраюцца да Слова. Язык хочуць жывасілам вырваць. Галаву таму недавярку мала адкруціць...»

Тым часам гаворка перакінулася на спрадвечныя турботы вяскоўцаў: хто і колькі ўкасіў сена, і як яго дабавіць да гумна, ці вырасце ў сухмень бульба, хто багацее, а хто апошняе прапівае...

Змітрок услухоўваецца ў нетаропкую гамонку землякоў, разважае. Вёска сёння, як тое поле узаранае нядбайным трактарыстам. Жыццё сялян няроўнае. Адны робяць ад відна і да цямна, круцяцца, багацеюць. Той-сёй жывот адгадаваў — цераз папругу перавісае. Другія п'юць-крадуць, крадуць-прапіваюць. У іх штаны з задніцы звальваюцца. Не ведаю, мяркуе сам сабе Сантаровіч, што меў на ўвазе рускі класік, калі ў рамане «Злачынства і пакаранне» пісаў: маўляў, усе добрыя людзі на Русі — п'яніцы, ўсе п'яніцы на Русі добрыя людзі. Можа, там яны і добрыя, Бог яго ведае. А ў вёсцы, дзе хатка яго бацькоў, яны благія. Іхніх дзяцей, вечна галаднаватых, апранутых амаль у рыззё, з не дзіцячай тугой у вачах — шкада. Вось вясною, ён ужо сабраўся ісці на аўтобус, прыносіць васьмігадовы Васілёк трохлітровы слоік малака, (бацька як захварэў на сэрца карову давялося збыць). Змітрок ажно сумеўся, пазаўчора ж прынесіла яго бабуля Юзэфа (маці Васілька пазбавілі мацярынства) трохлітровік і бацька папярэдзіў, што болып пакуль не трэба, скажа, калі яшчэ прынесці. І Васілёк быў з бабуляй, чуў тое.

— Гэта табе бабуля сказала занесці нам малако? — пацікавіўся Змітрок. Хлопчык, смуглявы, худы і кволы (як ён дацягнуў трохлітровік!), не, не збянтэжыўся, а паважна і самавіта адказаў:

— Бабуля падаіла і пабегла ў школу на дзяжурства. А мы з сястрой працадзілі і вам прынеслі.

За брамкай, на вуліцы, насцярожана, з надзеяй бліщчэлі вочкі на год маладзейшай і такой жа ценькаватай сястрычкі Васілька — Анюты.

Ён аддаў свае дзве тысячы, грошы невялікія, а вясковае малако, яно і ў Менску вясковае малако, адно пацікавіўся: куды хлопчык мяркуе ўжыць грошы? Купім батон, адказаў работнічак, астатнія — бабулі. Ну, і на здароўе! Для іх і белы батон вялікая раскоша.

Мужчыны выгаварыліся і палезлі ў кішэні па цыгарэты. «Самы час»,— устрапянуўся Змітрок, нагнуўся, расшпіліў сумку і дастаў кнігу Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі!» Ен і раней, калі наведваўся да бацькоў, часцяком чытаў вяскоўцам што-кольвечы вясёлае, жартаўлівае ці сатырычнае. Землякам гэта даспадобы, яны рагаталі там, дзе трэба было гэта рабіць і абураліся таксама да месца. Сёння хлопец наважыўся пачытаць тое-сёе са згаданай кнігі і, вядома ж, мясціну, дзе Бог дзеліць паміж народамі зямлі. Напачатку трошкі распавёў пра Уладзіміра Сямёнавіча, яго задуму.

Сама легенда просценькая, трошкі іранічная. Склалі яе нашы прадзеды напачатку 30-х гадоў XIX стагоддзя. Калі хто забыўся ці не памятае, то можна з большага нагадаць.

Прыйшлі беларусы па надзел і вельмі пану Богу спадабаліся. Ён і адмераў «братачкам»: зямлю ўрадлівую, рэкі поўныя і ў іх рыба віруе, пушчы — нямераныя, азёры — нялічаныя. Звяры і дзічына ў пушчах чародамі, пчолы ў борцях — касякамі. Жанчыны — прыгожыя, дзеці — дужыя, сады — багатыя, грыбоў ды ягад — заваліся. Паабяцаў, што голаду не будзе, але і зажэрціся не дасць. Шмат яшчэ чаго адшкадаваў пан Бог. Аж тут святы Мікола падвярнуўся, штурхець Усявышняга ў бок: «Пане Божа, ды падумайце. Гэта ж вы ім рай аддаеце!..» Бог падумаў, падумаў — не забіраць жа назад. «Добра,— кажа,— зямля будзе — рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся — дам вам найгоршае ва ўсім свеце начальства...» Для раўнавагі даў пан Бог. Каб насы не задзіралі. Вось і ўся легенда.

— Габлюй, Змітрок. Чытай. Мы, сам ведаеш, свету белага нябачым, за работай душымся. Брахуна гэнага, тэлевізар, няма калі паглядзець,— падахвоціў хлопца Антон Дубіцкі і ён жа першым, як толькі Змітрок скончыў чытаць узрушана загаварыў:

— Вядома, не пашкадаваў. Даў. Бо мы дурныя да работы. Але, браце, даў не рай. Рай Бог даў расейцам. Во, дзе адваліў, дык адваліў! Усяго ўволю. Там табе: золата і нафта, алмазы і газ... Што душа захоча...

— Яно яшчэ на маёй памяці тое было,— раптам варухнуўся, ціха загаварыў дзед Даніла і ўсе ажывіліся. Дубіцкі нават падміргнуў Змітраку, таўхануў яго ў бок.— У нашай Вусе, праўда, тады тры млыны стаяла, шмат вадзілася рыбы: палку ўторкні — будзе стаяць, не паваліцца. Рыба варушылася — вада кіпела. А цяпер... Што ж...

— Ты, Змітрок, мне скажы,— упарціўся Антон Дубіцкі.— За што Бог даў расейцам столькі багацця? Га? Яны што, лепшыя за нас? Хрэн. Па тэлевізару самі паказваюць: суцэльная п'янь, бамжы, беспрытульныя дзеткі, бандыты.

— Людзі што... Яны ўсюды людзі. Яны не вінаватыя,— памяркоўна, але гэтак жа ціха зноў загаварыў дзед Даніла.— Куды іх начальства пугаўём гоніць, туды і чэшуць. Я, вось,ніяк не дабяру розуму: чаму яны ў семнаццатым годзе ўладу бандытам аддалі, а цяпер унукам тых галаварэзаў? Га? А начальства ва ўсе часы грэбла пад сябе, грабе і будзе грэбсці. Хай здохне тая курыца, якая ад сябе грабе...

Усе дружна зарагаталі. Усміхнуўся ў сівыя вусы і дзед Даніла. Ен выпрастаўся, крактануў, ляпнуў шырокімі далонямі па каленях, акінуў мудрым поглядам вяскоўцаў, незразумела сказаў:

— Жыць трэба. Трэба, хлопцы. Пакуль жывеш, то і жыві. Рабі, варушы мазгаўнёй...

Сонца шчодра адорвала зямлю ласкавым цяплом. Шапталася лістота на ліпе, з агарода пахла кропам, з палісадніка — бэзам і язвінам. Пырхалі з галінкі на галінку, заўзята шчабяталі птушкі. Рыкалі, у прадчуванні скорай дойкі, каровы. Пагрузнелыя ад травы, разамлелыя на сонцы, яны ішлі нетаропка, валюхаючыся, адбіваліся хвастамі ад аваднёў і мух, падняли густы шызы пыл. Вяскоўцы заспяшаліся, сталі зваць сваіх Галак, Лысух, Лабатак... Засабіраўся да бацькоўскага парогу і Змітрок Сантаровіч.

Ішоў загуменнямі, спакваля, у глыбокім одуме. «Трэба дапісаць малітву. А напішу так: "Пакуль жывеш, Слова — жыві. А мы будзем шчыраваць, рупіцца, варушыць глуздамі. Інакш — грош цана нам.»





# Святкаванне Калядаў - 2008

Пэўна кожны мінчук штосьці чуў аб Ратамцы, нават ведае дзе тая знаходзіцца, але гэтае і зусім нядзіўна. Будзе дзіўным, калі хтось яшчэ з іх прыгадае аб СДК, гэта значыць – сельскі дом культуры. Запытаеце, чаму менавіта аб ім? Таму, адкажу вам, што за апошнія 10-15 год ён з намінальнай ці ўмоўнай, фармальнай сельскай кропкі культуры пераўтварыўся ў зайздроснадзейсны, творча натхнёны калектыў, які жыве і няспынна пульсуе свой імпэт як адзіны арганізм. Візітнай карткай, так бы мовіць, тут з'яўляецца фальклорна-жартоўны гурт "Цешча", які ўжо заслужана і з гонарам валодае тытулам "Народны". Паверце, гэта зусім не фармальная прынада, як зараз шмат дзе ёсць. Кожны ўдзельнік гэтага гурту – асоба, самабытны талент, індывід непаўторны, лёгка валодае нашай роднай мовай, цікавіцца і ганарыцца, як уласнай, так і агульнанароднай мінуўшчынай ды культурай. Але зараз аб галоўным.



Напярэдадні святкавання другіх Калядаў і Хрыстовага нараджэння гэтым гуртом перад жыхарамі і гасцямі мястэчка была паказана святочна-ўрачыстая праграма "Калядкі-2008". Пасля абавязковага ўступнага традыцыйна-ўзнёслага псалма, выкананага на царкоўны лад, на працягу ўсёй праграмы няспынным патокам сыпаліся, што з рога, жарты і гумар, якія шчыра аздабляліся дасціпнымі і ёмістымі прыгаворкамі ды прымаўкамі. Розныя калядныя істоты, як у калейдаскопе, вірліва змянялі перад зачараванымі гледачамі адна другую. То "цыганка" чмурыць людзей, то "каза" сутаргава дрыгае нагамі, ці "мядзведзь" дэманструе смаргонскую навуку, ці то галоўны персанаж свята Зюзя, водзячы карагоды і адорваючы падарункамі, нястомна нясе да ўсіх жаданае шчасце. Зухавата з-пад пальцаў Анатоля Якімовіча няспыннай завірухай мкне ў тахт усім дзеям іскрыстая мелодыя.

... і вось, калі ўжо прысутныя ледзь не ўсмятку паразбівалі далоні пляскаючы ў ладкі, як на іх відавоку з'яўляецца дзіцячы лялечна-драматычны гурт "Мікося". Праграма іх выступу значна рознілася ад папярэдняй сваёй неардынарнасцю. але яна надзвычай пасавала гэтаму святу і была жывым яе працягам. Паэтычная нізка твораў, тут скарыстаных, належала пяру адоранага самабытнага паэта і праніклівага краязнаўцы Алеся Гарбуля з Лынтупаў, што на Пастаўшчыне. Але, умоўна кажучы, яна ўяўляла сабой яшчэ толькі прыгожы падбор словаў, шкілет для будучага цела, пакуль не трапіла ў рукі дасведчанага прафесіянала сцэнічнага мастацтва Міколы Рабычына, які тут з'яўляецца рэжысёрам і пастаноўшчыкам. Яму на зайздрасць трапна ўдалася "ўдыхнуць душу", калі здолеў падабраць кожнаму дзіцяці адпаведны тэкст і ўдала размеркаваць усе акцэнты ды ролі.

Нарэшце, бадай ці не найскладнейшае, як дамагчыся, каб дзеці лёгка і натуральна, як іхныя дзядулі ды матулі калісьці ў маленстве, сакавіта па-беларуску прамаўлялі і спявалі з выключнай чысцінёй. Што асабліва ўражвае і здзіўляе, дык тое, што гэтае ім удалося, і хоць дзеці гэтыя займаюцца ў мясцовай школе з расейскай мовай навучання. Гэтакае навучанне, як вядома, зазвычай вельмі адмоўна ўплывае як на развіццё індывідуальнасці ўвогуле, так і на асаблівасці прамаўлення і мыслення ў прыватнасці.

Бліскучы выступ дзяцей быў ці не лепшым падарункам Зюзі, як для людзей тут прысутных, так і для ўсяе Беларусі. Зараз, вельмі мала дзе ў нашай сталіцы, на вялікі жаль, можна сустрэць падобны шчасны феномен – адпаведную высокую адказнасць перад сваім абавязкам, як у прафесійным сэнсе, так і ў сэнсе ўсведамлення сваёй айчыннай прыналежнасці ды адказнасці перад будучыняй свайго народу. Вельмі трапным выглядае ў гэтым спрыянне і актыўны ўдзел у распрацоўцы літаратурных праграм дасведчанага майстра Яна Чэркаса.

Хочацца верыць, што такі ўдалы пачын Ратамскага СДК, якім кіруе Алёна Юркеня, у блізкім часе дасць свой вартасны плён. Вядома, усё гэтае сталася дзякуючы няспыннай увазе мясцовых уладаў, якія нарэшце, акурат да святаў, давялі да належнага ладу гэтае культурніцкае месца.



На развітанне яшчэ раз хочацца выказаць падзяку ўсяму калектыву, і сталым, і малым удзельнікам святочнага выступу, пажадаць новых здабыткаў, натхнення і радасных сустрэч. Ды праспяваць: "... бывайце здаровы, жывіце багата...".

***Старшыня Рады Партызанскага раёна г. Менска ТБМ імя Скарыны, мастак Алесь Цыркуноў.***

# Успаміны Эдварда Вайніловіча

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**4 верасня 1919 г.** Нечаканае вяртанне сястры маршалковай Харват у Менск з Бабруйскай турмы, з якой яе вызваліла ўзяцце Бабруйска польскім войскамі. Святая сіла яе ахоўвала, таму што днём пазней яна была б высланая з партыяй зняволеных у Смаленск, адкуль невядома калі вызвалілася б, ды і ці засталася б жывая. Мой ад'езд з Менска ў Варшаву.

**5 верасня 1919 г.** Вяртанне ў Варшаву. Падчас маёй адсутнасці быў адрэдагаваны Стэцкім і пададзены выбітнымі прадстаўнікамі сельскай гаспадаркі, гандлю, прамысловасці і фінансаў мемарыял, уручаны падчас выступу Юльяна Талочкі Падзярэўскаму, Трампчынскаму і Пілсудскаму; у мемарыяле паказвалася на няправільную лінію ўраду і гаварылася аб неабходнасці росту прадукцыйных сіл краіны на фоне пагрозлівага банкруцтва ва ўсіх сферах. Быў гэта першы здаровы парыў сіл грамадства. Падзярэўскі быў гэтым мемарыялам моцна раздражнёны, Трамчынскі прыняў мемарыял дабразычліва, Пілсудскі - панура.

**8 верасня 1919 г.** Ад'езд з Варшавы дадому. Развітанне з нашымі годнымі гаспадарамі спадарамі Пульяноўскімі, у якіх мы пачуваліся спакойна і ў бяспецы, як у бліжэйшых сваякоў. Вяртанне дадому без звычайнага ў такіх выпадках пачуцця шчасця, таму што невядома, што гэты разбураны дом у анархічнай краіне, у спустошанай гаспадарцы прынясе.

**9 верасня. 1919 г.** У Гарадзеі чакаў фурман, які некалі вазіў на брычцы, запрэжанай чацвёркай коней, а зараз - парай бездапаможных пад'язных, і воз драбінчасты, таму што не пакінулі нам ніякай іншай брычкі. Заехаў я на двор пад палац па здзірванелай дарозе. Мяне прывітала жонка, якая ўжо тыдзень была дома, і пару служак - з шчырай радасцю, астатнія - з адпаведнай збянтэжанасцю, а можа і з нудой па распусце і ўсёдазволенасці, па спыненых незаробленых прыбытках. Парк, пакінуты і здзічэлы, палі ў большай частцы неапрацаваныя, ураджай дрэнны, поўная адсутнасць інвентару і прыладаў працы. Усё гэта можна было б перанесці, усё з часам можна было б выправіць, калі б была ўпэўненасць у заўтрашнім дні, у правах уласнасці, упэўненасць у дзяржаўнай прыналежнасці, у прававым ладзе.

**17 верасня 1919 г.** Першы дзень сяўбы жыта. У ранейшыя гады сяўба ў гэтую пару была б ужо скончаная 2 - 3 тыдні назад, а не пачыналася б толькі. Глеба дрэнная, сухая як попел, не вылежаўшая, бракуе працоўнага інвентару, як тут можна разлічваць на ўраджай? Але на ўсё воля Бога: бывала, чалавек пасеяў добра, а ўраджаю не дачакаўся. Наогул, у мяне няма такога ўражання, што я вярнуўся ў бацькаву хату, хутчэй у мяне ўражанне, што я знаходжуся на нейкім этапе, гэта часовы прыпынак падчас вандравання па жыцці. Не бачу вакол сябе таго, на што глядзеў 72 гады. Голыя сцены, паламаная мэбля, абутак на мне дзіравы, архіў і бібліятэка разрабаваныя, пару талерак і некалькі сталовых прыбораў да кашы і бульбы, вечары без святла, суседзі разбрыліся - і наперадзе не травень або чэрвень, а цёмныя і слотныя кастрычніцкія і лістападаўскія дні, а галоўнае - такія ж панурыя палітычныя і грамадскія гараскопы.

**19 верасня 1919 г.** Я атрымаў нечаканы выклік з Староства прыехаць у Слуцк каб сустрэць там Пілсудскага, які быў у Менску і праз Баранавічы збіраўся прыехаць у наш павятовы горад.

**20 верасня 1919 г.** Шабас. На куту вуліцы Шасейнай і Маставой прыгатаваная трыўмфальная арка, сабраная пажарная ахова, аркестр, увесь дзень чакаем з хлебам і соллю. Мясцовыя ўлады ў мундзірах выглядаюць, як пераапранутыя акцёры нейкага аматарскага тэатра, якіх бавіць іх новая роля: няма сур'ёзнасці і перажывання за свае абавязкі, хутчэй - за атрыбуты ўлады. Пад вечар прыходзіць дэпеша, што Кіраўнік дзяржавы, выкліканы важнымі справамі ў Варшаву, у Слуцк не заедзе. Увечар мясцовыя дамы ідуць у "салдацкую гасподу" на танцы з салдатамі мясцовай залогі. На наступны дзень 3-ці полк уланаў павінен быў выйсці з горада ва ўсходнім кірунку. Пошта не працуе, газет няма, шырокае поле для розных гутарак і здагадак.

**26 верасня 1919 г.** Паступова вяртаюцца суседзі, сёння на сняданку ў мяне быў ардынат нясвіжскі, прыбылы з Парыжа.

**1 кастрычніка 1919 г.** Першыя, але моцныя замаразкі; вада замерзла ў карыце, а толькі заўтра пачынаем капаць бульбу. Вялікі кірмаш у суседніх Цімкавічах, мужыкі занадта рана вяртаюцца з мястэчка, жаляцца, што прыбылыя з Слуцка на машыне салдаты ў іх адбіраюць палатно, аўчыны, сукно па цане, не роўнай і чвэрці кошту. Трэба данесці аб гэтым уладам, каб захаваць аўтарытэт польскага кіравання.

**16 кастрычніка 1919 г.** Я паехаў у Менск, распавёў Рачкевічу аб інцыдэнце ў Цімкавічах; узяў запісы і выслаў дэпешу, каб адразу ж адрэагаваць на гэтыя злоўжыванні і эксцэсы. Уладзіслаў Рачкевіч, хоць і радыкальнай арыентацыі, робіць уражанне чалавека энергічнага. чэснага і безумоўна хоча дабра нашай краіне. Вось б такіх адміністратараў давалі на Крэсы, іншым быў б аўтарытэт польскага кіравання. Менск на здзіўленне хутка стаў польскім: назвы вуліц польскія, шыльды, напісаныя, праўда, на тарабарскай польскай мове, але польскія, школы польскія, нават габрэі пачынаюць па-польску гаварыць на вуліцах, хоць яны і не зусім упэўненыя ў тым, што сапраўдны "статус-кво" прадоўжыцца доўга. Толькі рубель не капітулюе, усё расце, а марка танее. З Менска я паехаў у Варшаву. Абвешчаны па ўсёй краіне штрайк працаўнікоў фальваркаў не ўдаўся, часткова дзякуючы пратэсту гарадскога насельніцтва, якому пагражаў бы голад, калі б своечасова не была б выкапана бульба, якая, аднак, у многіх месцах з-за часовай правалокі з уборкай памерзла. Як быццам бы і ўрад пачынаў трохі разумець, што папускаючы анархію, недалёка зойдзе.

**8 лістапада 1919 г.** Я прыехаў у Менск на збор Сельскагаспадарчага таварыства. Збор быў нешматлюдным, на ім прысутнічала ў асноўным тая частка абшарнікаў, якая або заставалася ў Менску, або яшчэ не паспела даехаць да сваіх маёнткаў.

**9 лістапада 1919 г.** Урачыстае богаслужэнне ў Кафедральным саборы ў гонар гадавіны вызвалення Польшчы, прысутнічалі вайсковыя і цывільныя ўлады. У першым шэрагу займае крэсла генерал Жалігоўскі, ганарова вядомы сваім вяртаннем з Адэсы, у цяперашні час галоўнакамандуючы на адрэзку беларускага фронту ў Менску; з другога краю, начальнік цывільнага кіравання Уладзіславаў Рачкевіч са сваім намеснікам Альгердам Яленскім, сынам майго суседа, абшарніка Эдварда Яленскага, які, нягледзячы на сваё абшарніцкае паходжанне, моцна афарбаваны сваімі падрыўнымі поглядамі і ў межах сваёй улады з добрымі, верагодна, намерамі, але прыносячы вялікую шкоду, уплывае на парадак у сталіцы і абшарніцкія справы.

Біскуп Лазінскі, паддаючыся беларуска-дэмагагічнаму ўплыву, у сваім звароце папракаў між іншым абшарнікаў за нібы адсутнасць ахвярнасці. Пасля богаслужэння паседжанне Сельскагаспадарчага таварыства, абуранага пропаведдзю біскупа, якую я меў намер адпарыраваць на раўце, які наладжваўся у той жа дзень генералам Жалігоўскім і Рачкевічам у Шляхецкай зале, на які я атрымаў запрашэнне. На раўце шмат запрошаных, але больш вайскоўцаў. Нягледзячы на неабграваныя суседнія пакоі, у іх танчаць жанчыны ў дэкальтаваным з ахвочымі патанчыць паручнікамі пад гукі двух вайсковых аркестраў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# У Менску прайшла вечарына, прысвечаная 20-годдзю часопіса "Роднае слова"

Вечарына, прысвечаная 20-годдзю штомесячнага навукова-метадычнага ілюстраванага часопіса на беларускай мове "Роднае слова", прайшла 25 студзеня ў ліцэі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Менску.

Як зазначыў галоўны рэдактар часопіса, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ Уладзімір Кулікові, выдадзена 240 нумароў часопіса, які да 1992 года называўся "Беларуская мова і літаратура ў школе".

Паводле слоў У. Куліковіча, у выпушчаных нумарах выдання, якое не мае аналагаў у свеце, апублікавана звыш за 8 тыс. артыкулаў больш чым тысячы аўтараў. Галоўны рэдактар назваў 20-годдзе часопіса "святам роднай мовы, якое дазваляе нам быць беларусамі і адчуваць сябе гаспадарамі сваёй зямлі".

Сярод новых рубрык выдання У.Куліковіч назваў "Літаратура і час", "Мовы рысы непаўторныя" і "Алімпіяды. Конкурсы. Іспыты". Рубрыку "Дыялог з карцінай" будзе весці пісьменнік і мастак Віктар Карамазаў, а "Беларускія мудрагелінкі" доктар філалагічных навук прафесар Ірына Казакова. Яна пазнаёміць чытачоў з элементамі духоўнага свету беларусаў.

Рэдкалегію часопіса прывіталі саветнік міністра адукацыі Віктар Іўчанкаў і член Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Карлюкевіч.

Былы галоўны рэдактар выдання Міхась Шавыркін падкрэсліў, што ўсіх супрацоўнікаў часопіса аб'ядноўвала імкненне да прыгажосці. "Мы хацелі не толькі адчуць і зразумець прыгажосць, але і перадаць яе дзецям. Мы імкнуліся да гармоніі з прыродай, людзьмі і прасторай вакол нас, з гісторыяй і культурай свайго народа, бо без усяго гэтага няма будучыні ў часопіса, школы і нашай краіны", сказаў М. Шавыркін.

Удзельнікам вечара былі ўручаны бібліяграфічныя даведнікі "Беларускія пісьменнікі на старонках часопіса "Роднае слова".

Часопіс асвятляе пытанні літаратурнай, моўнай і культуралагічнай адукацыі ў сярэдняй школе. Публікуе матэрыялы аб гісторыі нацыянальнай культуры, сучасным літаратурным працэсе, лінгвістычных праблемах і міжмоўных сувязях, аб асаблівасцях беларускай мовы. Друкуюцца рэцэнзіі на выданні, паэтычныя і вакальныя творы, творчыя партрэты беларускіх мовазнаўцаў, літаратараў, дзеячаў культуры, а таксама архіўныя дакументы, звязаныя з іх дзейнасцю.

*М. Гаравы, БелаПАН.*

# Віленскі і беларускі літаратурныя музеі падпісалі дамову аб супрацоўніцтве

У сталіцы Літвы падпісана дамова аб супрацоўніцтве паміж Беларускім дзяржаўным літаратурным музеем імя Янкі Купалы і віленскім Літаратурным музеем А.С. Пушкіна.

"Гэтая дамова дае магчымасць літоўскаму музею карыстацца фондамі беларускага музея, а беларусам - нашымі, - растлумачыла карэспандэнту БЕЛТА дырэктар віленскага музея А.С.Пушкіна Тацціяна Міхнева. - У дамове прадугледжаныя абмен экскурсіямі, выставамі, экспазіцыямі, доступ да музейных матэрыялаў, адукацыйных праграмаў. У нас захоўваюцца экспанаты, звязаныя з жыццём беларускага паэта ў Літве. Ёсць у нас камплекты часопісаў "Наша Ніва" і "Наша доля", якія выпускаліся ў Вільні на беларускай мове. Захоўваем мы і частку экспазіцыі былога музея Якуба Коласа, які да 1960 года існаваў у Павільні (ускраіна Вільні)".

Важнасць дамовы для захавання культурнай спадчыны беларусаў у Літве адзначалі падчас цырымоніі падпісання дакумента прадстаўнікі беларускай грамады Літвы. Загадчыца кафедрай беларускай філалогіі і міжкультурных камунікацый Віленскага педагагічнага ўніверсітэта Лілея Плыгаўка падкрэсліла, што велізарны пласт віленскай культуры, асабліва канца XIX - пачатку XX стагоддзяў, - гэта беларуская культура. Бо ў тыя часы ў Вільні не толькі выдаваліся часопісы на беларускай мове, але і працавала беларуская гімназія.

На цырымоніі падпісання дамовы прысутнічалі віца-мэр Вільні Альгірдас Палецкіс, загадчык аддзелам музеяў Міністэрства культуры Літвы Раманас Сенапедзіс, дырэктар Беларускага дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы Алена Матэвасян, супрацоўнікі амбасады Беларусі ў Літве. Сёння ж Беларускі дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы падпісаў дамову аб супрацоўніцтве з Літоўскім музеем тэатра і кіно. Ужо ў лютым беларусы прывязуць сюды першую выставу.

*БЕЛТА.*

# УВАГА!

Запрашаем наведаць выставу беларускай музыкі, кніг і часопісаў на сядзібе ТБМ (г. Менск. вул. Румянцава, 13). Працуем штодня, акрамя выходных, з 14.00 да 18.00.

Тут Вы можаце пазнаёміцца з новымі запісамі на CD, DVD, кнігамі з серыі "Беларускі кнігазбор", а таксама з **новымі аўдыёкнігамі**: "150 пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі", Мікола Ермаловіч "Лісты, выступы, гутаркі, вершы", Дж. Оруэл "Ферма", "1984", Андрэй Хадановіч "Абменьнік". Вершы і пераклады, Максім Багдановіч "Вершы".

**Новыя DVD**: "Апакаліпсіс", "Лісты з Іўа Дзімы", "Тлум (Бабілён)" ды іншае.









МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МИНИСТЕРСТВО ИНФОРМАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
тэл. (017) 203 92 31, факс (017) 203 34 35

Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
тел. (017) 203 92 31, факс (017) 203 34 35

«21» 01 2008 № 05-05/4342ДС

на № ..................

Старшыні
ГА "Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны"
Трусаву А.А.

**Аб беларускамоўных календарах**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Па даручэнню Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Мінісэрстве інфармацыі разгледжаны Ваш зварот ад 27.12.2007 г. аб выданні календароў на беларускай мове.

Аб прычынах прыпынення выдавецтвам "Беларусь" выпуску адрыўнога календара "Родны край" на 2008 Вы праінфармаваны раней (ліст ад 16.11.2007 " 05-05/ЛН 238).

Адначасова паведамляем, што па даручэнню Міністэрства інфармацыі выдавецтва "Беларусь" аднаўляе выданне адрыўнога календара на беларускай мове "Родны край". Названы каляндар (на 2009 год) уключаны ў план выпуску сацыяльна значнай літаратуры ў 2008 годзе. З мэтай змяншэння цаны на яго выпуск запланавана выдзеленне субсідыі з рэспубліканскага бюджэту.

**Намеснік Міністра І.М. Лапцёнак.**

# Тэматыка семінараў ТБМ

**7 лютага.** "Гарады Беларусі ў творах беларускіх пісьменнікаў". Вольга Іпатава. СШ г. Менска.

**11 лютага.** "Беларусь у гады нямецкай акупацыі" Ігар Кузняцоў. 18.00. ТБМ.

**13 лютага.** "Студэнт і здаровы лад жыцця: не – наркотыкам і алкаголю". Л. Дзіцэвіч. БДТУ.

**18 лютага.** "Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска". Захар Шыбека. 18.00. ТБМ.

**25 лютага.** "Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі краіны". Людміла Дзіцэвіч. 18.00. ТБМ.

**28 лютага.** "Беларусь і яе незалежнасць у 1918 годзе". Анатоль Грыцкевіч. 18.00. ТБМ.

**28 лютага.** "Гарады Беларусі ў творах беларускіх пісьменнікаў". Вольга Іпатава. Каледж г. Менска.

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Студэнты факультэта – 12000 р., г. Магілёў.
2. Жджановіч Міхась – 10000 р., г. Менск.
3. Місцюкевіч Алесь – 15000 р., г. Гародня.
4. Рэзьнікаў Алесь – 9000 р., г. Менск.
5. Сімакоў Алесь – 6500 р., г. Менск.
6. Шагулін Алег – 1500 р., г. Менск.
7. Хадкевіч А.- 11000 р., г. Менск.
8. Багданкевіч Светлана – 6000 р., г. Менск.
9. Мянькоў Юры – 10000 р., Кармянскі р-н.
10. Казлоўская Іна – 8000 р., г. Менск.
11. Алена і Мікола Сенькі – 40 англійскіх фунтаў, Лондан.
12. Мазынскі Валер – 15000 р., г. Менск.
13. Хадоскін-Ігнацікаў – 4000 р., г. Гомель.
14. Клімуць Яраслаў – 12000 р., г. Магілёў.
15. Даўлатовіч Іван – 45000 р., г. Салігорск.
16. Цынгалаў Віталь – 6000 р., г. Жлобін.
17. Талерчык Тамара – 30000 р., г. Гродна.
18. Палачаніна М.Е. – 5000 р., г. Менск.
19. Такуновіч Іосіф – 5000 р., г. Менск.
20. Скрэчка Л. – 5000 р., г. Мазыр.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015212330014 у Мінскай гардырэкцыі ААТ "Беінвестбанка" код 764 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Касір**

Пеня
Разам

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Квітанцыя**

**Касір** **М.П.**

Пеня
Разам

Плацельшчык

# Беларускія карані не былі для яго таямніцай

## 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Высоцкага

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Адметнай рысай Высоцкага была ўпэўненасць у сабе, ён заўсёды паступаў так, як лічыў патрэбным. Мірыцца з несправядлівасцю, крыўдай, прычыненай слабым, ён не мог з дзяцінства.

Быў такі выпадак. Лета. Дача пад Кіевам, дзе адпачываюць трынаццацігадовы Валодзя, Яўгенія Сцяпанаўна, куды часта прыязджае на выходныя Сямён Уладзіміравіч, з'яўляюцца іншыя кіеўскія сваякі Высоцкіх.

Вясковая цішыня, спакой. Заняткі хатняй гаспадаркай, у якіх не апошняе месца займаюць выпас курэй і збор ягад. Купанне ў рэчцы і іншыя любаты дачнага жыцця. Да ўсеагульнай радасці прыязджае Лідзік. З ёю маленькі сын Віталь. Але раптам тут, на дачы, ён захварэў. У яго паднялася тэмпература. Побач здымала дачу сям'я лекараў, і ўсхваляваная Лідзія Мікалаеўна звярнулася да іх па дапамогу:

- У мяне захварэла дзіця, вы не маглі б яго паглядзець?!

Але атрымала жорсткі адказ:

- Мы прыехалі адпачываць і нікуды не пойдзем!..

У слязах яна вярнулася дадому. На парозе быў Валодзя.

- Што здарылася, Лідзік? - спытаў ён з клопатам. А калі даведаўся што здарылася, сказаў сур'ёзным тонам: - Калі яны адмовіліся дапамагчы - гэта не лекары!..

Калі сцямнела, вакол дачы "лекараў" раздаўся моцны шум. Гэта хлапчукі пад правадырствам Высоцкага грукаталі, стукалі і крычалі па-тарзанску. Раніцай высветлілася, што хлопцы адвязалі лодку суседзяў Высоцкіх і пусцілі ўніз па цячэнні.

- Божа мой! Нас жа ўсіх арыштуюць! Божа мой, што ты нарабіў! - галасіла бабуля Уладзіміра. - Нас усіх пасадзяць!

Але, мабыць, лекары самі зразумелі ўсю ганебнасць сваіх паводзінаў - на наступны дзень яны з'ехалі.

У 10-м класе Высоцкі пераехаў жыць да маці, Ніны Максімаўны. У новым доме, на той жа Першай Мяшчанскай увесну 1955 г. яны атрымалі пакой у трохпакаёвай кватэры, дзе побач з імі пасяліліся іх суседзі па камунальнай кватэры, Гіся Майсееўна і яе сын Мішка Шыфман. У Валодзі пашырэў круг знаёмых, але ён не забыў сваіх сяброў на Вялікім Карэтным, дзе ўжо ў школьныя гады стала фармавацца кампанія, аб якой ён потым скажа: "... усе былі цікавыя людзі досыць высокага ўзроўню, хто б чым не займаўся...". З многімі з іх Уладзімір Высоцкі захавае выдатныя адносіны на ўсё жыццё.

Выдатная кампанія на Вялікім Карэтным, аб якой пазней не раз будзе ўспамінаць Уладзімір Высоцкі на сваіх лекцыях-канцэртах, утварылася ў канцы 50-х - пачатку 60-х гадоў. З'явілася яна, вядома, спантанна, але, зрэшты, цалкам заканамерна, на аснове зблiжэння двух рознаўзроставых груп. Адна з іх складалася з аднакласнікаў і аднагодкаў Уладзіміра Высоцкага. Яго школьны таварыш Валодзя Акімаў, які рана страціў бацькоў, у старэйшых класах жыў практычна адзін, таму ў яго на Карэтным, у вялікім пакоі, каля 40 квадратных метраў, перагароджаным шафай і гунькамі, збіралася вясёлая мужчынская кампанія, у якую абавязкова ўваходзіў і Высоцкі: Ігар КахаНоўскі, Яша Бязродны і Аркадзь Свідэрскі. Другая група - гэта Лявон Сурэнавіч Качаран, яго сябры і знаёмыя, якія жылі ў яго, а пазней і ў яго жонкі Іны Аляксандраўны Качаран (Крыжэўскай), у трохпакаёвай кватэры ў тым жа пад'ездзе, дзе жылі бацька Высоцкага і Яўгенія Сцяпанаўна.

Качаран быў старэйшы за Уладзіміра на 6 гадоў, яго пазнаёміў з Лявонам Анатоль Уцеўскі. Апошні вучыўся з Лёвай у МДУ на адным факультэце. юрыдычным, сябраваў з ім і нават пазнаёміў Качарана з будучай жонкай. Яшчэ вучачыся ў школе. Высоцкі трапляе ў кампанію дарослых людзей, якія маюць да таго моманту на Вялікім Карэтным адпаведны аўтарытэт, і неўзабаве становіцца яе паўнапраўным чальцом. Сябры ўспамінаюць. што Уладзімір у гэты час быў лёгкі, вясёлы, вельмі таварыскі хлопец, які ўмеў арганізаваць любое свята, як ён сам сябе зваў - ілгун, балбатун і рагатун. Потым некаторыя з школьных прыяцеляў Уладзіміра: Каханоўскі, Акімаў, Бязродны таксама трапляюць у кампанію Лёвы Качарана і ўтворыцца цікавая супольнасць рознабакова адораных людзей.

Лявон Сурэнавіч Качаран аказаў велізарны ўплыў на маладога Высоцкага і таму варта распавесці пра яго больш падрабязна. Анатоль Барысавіч Уцеўскі ўспамінае: "Лёвушка быў дзіўным чалавекам: выдатна ведаў літаратуру і кіно, спяваў, граў на гітары, быў спартоўцам - пышна баксаваў, на здымках сам вадзіў танкі, а Толя Гарагуля, капітан цеплахода "Грузія", распавядаў, што аднойчы Лёва сам прышвартаваў цеплаход. Лёва любіў дзівіць людзей - мог выпіць куфель шампанскага і закусіць фужэрам. Спакойна жаваў брытвы, мог пракалоць шчаку іголкай. Гэта рабіла ўражанне, асабліва на маладых дзяўчат. Качаран быў вельмі рознабаковым чалавекам - не было прафесіі або рамяства, якімі ён не змог авалодаць. У хаце ён літаральна ўсё зрабіў сам, мог пашыць сабе кашулю... Потым раптам пачаў захапляцца абажурамі - у ўсіх у нас былі Лёвушкіны абажуры. На нейкім сваім фільме сам сканструяваў і пабудаваў не то брычку, не то тачанку.

Увогуле, Лёва быў чалавекам унікальным. Гэтая ўнікальнасць выяўлялася першым чынам у яго ўменні сябраваць, выслухаць і зразумець блізкіх сяброў, калегаў па працы, проста знаёмых. Менавіта таму многія цягнуліся да яго...

Качарана як другога рэжысёра шанавалі шматлікія нашы вядомыя майстры. На "Масфільме" нават гаварылі, што Кочаран - першы сярод усіх другіх рэжысёраў.

Зносіны з Качаранам усім нам давалі шмат, а Валодзі, як мне здаецца, асабліва. У многіх рэчах ён проста пераймаў Качарана. Лёву любілі многія людзі і, як вы разумееце, было за што...".

У 10-м класе Уладзімір пачаў займацца ў драмгуртку пры Доме настаўніка на вуліцы Горкага. Кіраваў гуртком артыст МХАТа Уладзімір Мікалаевіч Багамолаў. Аднойчы Ніна Максімаўна Высоцкая прыйшла туды на рэпетыцыю. Яна так успамінае аб сваім уражанні ад ігры сына: *"Валодзя паказваў селяніна, які прыйшоў на вакзал і патрабуе ў касіркі квіток, яму адказваюць, што квіткоў няма, а ён дамагаецца свайго. Я упершыню бачыла яго (Уладзіміра) на сцэне і дагэтуль памятаю сваё здзіўленне, настолькі нечаканымі былі для мяне ўсё яго акцёрскія прыёмы. Пасля рэпетыцыі я падышла да Багамолава і спытала (хоць ужо ведала адказ): "Ці можа Валодзя прысвяціць сваё жыццё сцэне?" - "Не толькі можа, але павінен! У вашага сына талент", - адказаў акцёр.*

*Валодзя да глыбокай ночы знікаў у гуртку...".*

Атэстат аб сярэдняй адукацыі Уладзіміра Сямёнавіча Высоцкага, атрыманы ім 24 чэрвеня 1955 года, паведамляе, што: "пры выдатных паводзінах" ён "выявіў наступныя веды па прадметах":
Руская мова - 4 (чатыры).
Усеагул. гісторыя - 5 (пяць).
Літаратура - 5 (пяць).
Канстытуцыя СССР - 5 (пяць).
Алгебра - 4 (чатыры).
Геаграфія - 5 (пяць).
Геаметрыя - 4 (чатыры).
Фізіка - 4 (чатыры).
Прыродазнаўства - 5 (пяць).
Хімія - 4 (чатыры).
Гісторыя СССР - 4 (чатыры).
Зам. мова (французская) - 4 (чатыры).

Да канца школы Уладзімір рашуча заявіў бацькам: хачу ў Тэатральны, але ўся сям'я была супраць. Бацька, маці, дзядуля Уладзімір Сямёнавіч, іншыя сваякі ўгаворвалі яго пакінуць мару аб тэатральнай кар'еры і, каб заўсёды мець кавалак хлеба, стаць "нармалёвым савецкім інжынерам". Пад такім ціскам Высоцкі вырашыў паступіць у тэхнічную ВНУ на механічны факультэт разам са сваім аднакласнікам і сябрам Ігарам Каханоўскім. Выбар інстытута быў зроблены выпадкова - па самым прыгожым запрашальным квітку на дзень адчыненых дзвярэй. Гэта быў МІБІ імя Куйбышава. Патрапіць туды лічылася вялікім шчасцем, так у 1955 годзе конкурс на механічны факультэт склаў 17 чалавек на месца. У той час немалую дапамогу пры паступленні аказвалі спартовыя поспехі абітурыентаў. Ігар Каханоўскі ўспамінае аб тым, як яны з Высоцкім прыйшлі ў прыёмную камісію: "... там усіх пыталі: "У вас ёсць разрад?" Я гавару: "Ёсць. Першы па хакеі!" Мне гавораць: "Усё, ідзём, мы цябе ўладзім". А я ім: "Хвіліначку, я з сябрам!" А яны: "Мы вам дапаможам!" Яны нам сапраўды дапамаглі - напярэдадні назвалі тэму сачынення. У нас, вядома, было па некалькі варыянтаў гэтых тэм, і мы ўсё гэта перапісалі, атрымалі добрыя адзнакі...".

На сачыненні сябры атрымалі па чацвёрцы, не забыўшы для пэўнасці зрабіць па памылцы. З астатнімі прадметамі было больш складана. Але Уладзімір, атрымаўшы "4" па матэматыцы, "5" па фізіцы, "5" па французскай, стаў таксама, як і Ігар, студэнтам. Загад дырэктара МІБІ ім. В. Куйбышава за N 403 ад 23 жніўня 1955 г. абвяшчае: "Залічыць у лік студэнтаў 1-га курса механічнага факультэта т. Высоцкага Ў.С. без прадстаўлення інтэрната".

Першы час сябры радаваліся свайму паступленню і досыць шмат прагульвалі. Высоцкі хадзіў на заняткі, як на катаргу, - яму было невыносна сумна сядзець там, слухаць лекцыі па начартальнай геаметрыі, вышэйшай матэматыцы, фізіцы, аналітычнай геаметрыі, а самым жудасным для яго прадметам аказалася чарчэнне. Толькі зносіны з сакурснікамі, на якіх ён з задавальненнем пісаў эпіграмы і пародыі, падабаліся ў МІБІ Высоцкаму. Некалі ён і Каханоўскі у адным з маскоўскіх двароў падхапілі рэпліку: "Клічце мяне проста Вася". З таго час інакш як Вася, Васёчак, Васька яны адзін да другога не звярталіся. Ад дыялогаў гэтых двух "Васяў" студэнты і студэнтачкі паміралі ад смеху.

Увосень першакурснікаў адправілі "на бульбу". Трэцяя група механікаў збірала ўраджай на калгасных палях Валакаламскага раёна. Працы было шмат. З непрывычкі гарадскія хлопцы моцна стамляліся, але Высоцкі і ўвечар не сядзеў на месцы - хахміў, спяваў частушкі і гарадскія прыпеўкі, не дазваляючы сябрам упасці духам. Ён і там знаходзіў сабе тыя заняткі, якія затым спатрэбіліся яму ў працы артыста кіно. Ігар Каханоўскі ўспамінаў, як Высоцкі ўпарта вучыўся рабіць задняе сальта і ездзіць на кані:

*"...Калі мы паступілі ў МІБІ і, правучыўшыся тыдзень, апынуліся на ўборцы бульбы, у вёсцы, якая стаяла на беразе ракі, ён спрабаваў "круціць задняе", але ўсякі раз смешна і балюча пляскаўся ў ваду спіной. Аднойчы нават не на жарт пакрыўдзіўся на мяне, калі вынырнуўшы пасля чарговага балючага - у прамым сэнсе гэтага слова - скачка, пачуў мой дзікі смех. А не смяяцца было, сапраўды, немагчыма - так нязграбна і па-клоўнску ён боўтнуўся з берага ў раку. Але пасля кожнага няўдалага скачка ён ізноў паўтараў спробу за спробай, хоць, па-праўдзе гаворачы, скачкі лепш не станавіліся...*

*...У вёсцы мы неяк убачылі стрыножаных і без сядла коней, якія пасвіліся на лузе. Нікога з вясковага "начальствы" паблізу не было. Валодзя расстрэножыў аднаго з коней, на якім была аброць, мы дапамаглі яму ўзлезці на каня і ён паехаў. На шчасце, кабыла аказалася даволі рахманай і паслухмянай і як бы нехаця, але ўсё ж пабегла марудным подбегам. Валодзю гэтага здалося, мабыць, мала, ён стукнуў яе голымі пяткамі па баках, тузануў аброць, кабыла рэзка рванулася, і... ён кулём зляцеў на зямлю... Але, слава богу, усё абышлося, хоць гарбом ён прыклаўся вельмі прыстойна. Ледзь разагнуўшыся, сказаў: "Трэба абавязкова яшчэ раз паспрабаваць. Яна ўжо пачынае мяне слухацца.... Вунь, бачыш, яна не ўцякае, чакае мяне...".*

Наступіла першая сесія. Да новага, 1956 году Ігар і Уладзімір здалі ўсе залікі, акрамя чарчэння. Да іспыту заставалася пару дзён, а праца не гатовая! Яны сядзелі ў вялікім пакоі ў Ніны Максімаўны, падзяліўшы стол кніжкамі, пілі каву, каб не заснуць, і рабілі чарцяжы. Каханоўскі скончыў працу першым і, зірнуўшы на "майстэрства" Высоцкага, нервова разрагатаўся: на месцы выразнага алфавітнага шрыфту расплылася кляска. Журботны, журботны Валодзя стаяў побач, глядзеў на чарцёж, разумеючы, што, вядома, у яго не прымуць, затым ён выліў астаткі кавы з кубка на чарцёж і сказаў:

- Васёчак! Я ў гэты інстытут больш не хаджу!

- Ды што ты?! З такой цяжкасцю паступалі!

- Не, не! Гэта - не маё! Я думаю пайсці ў тэатральны.

Пачуўшы вокліч сына, Ніна Максімаўна з трывогай зайшла да іх у пакой і ўбачыла, як Уладзімір выплюхвае на чарцёж туш з слоіка.

- Інжынернай дзейнасці з мяне даволі, не магу больш!.. - прагаварыў ён, смяючыся.

Уладзімір падаў заяву з просьбай аб адлічэнні і не змяніў сваё рашэнне, нягледзячы на ўгаворы, просьбы, патрабаванні родных і знаёмых.

- Высоцкі, не рабіце неабдуманага кроку, у вас яўныя здольнасці да матэматыкі, - гаварыў дэкан у прысутнасці маці.

- Цалкам магчыма, - упарта сказаў Уладзімір, - але інжынерам я быць не жадаю і не буду!.. Дык навошта займаць месца, якое іншаму больш патрэбнае?..

Гэты рашучы ўчынак, сыход з прэстыжнага інстытута, стаў першым крокам Уладзіміра Высоцкага на шляху да прафесіі акцёра. З студзеня па чэрвень 1956 г. ён працягваў займацца ў драмгуртку ў Багамолава, які дапамагаў яму рыхтавацца да ўступных іспытаў, а ўлетку паступіў у школу-студыю МХАТ.

Пазней Высоцкі не без гумару распавядаў пра гэты цяжкі, вырашальны ў яго лёсе час:

*"...Я паступіў у Маскоўскі будаўнічы інстытут імя Куйбышава на механічны факультэт. Але потым адчуў, што мне гэта... словам - неўмагату... А у гэты час я ўжо некалькі гадоў займаўся ў самадзейнасці, але гэта была не такая самадзейнасць, да якой мы ўжо прывыклі - яна адразу аскому выклікае і па ёй ужо прайшліся ў нас у фільмах і ў прэсе. (Ліванаў аднойчы спытаў нашага міністра культуры: "А вы пайшлі б да самадзейнага гінеколага?"). Проста людзі акрамя працы займаліся яшчэ іншай справай, любімай больш за працу. Гэта было хобі, якое тады яшчэ не аплачвалася.*

*Кіраўніком там быў Багамолаў, артыст Мастацкага тэатра. Ён на нас "спрабаваў" шматлікія спектаклі і працаваў з намі па-рэжысёрску, як з прафесіяналамі. І я пачаў у яго набіраць - вельмі моцна, па яго словах. Вядома, гэта захапляла мяне больш, чым маё студэнцтва, і я проста сышоў з інстытута і пачаў паступаць у студыю МХАТ. Паступіў туды з вялікай цяжкасцю, лічылася, што мой голас не прыстасаваны для сцэны. Мяне нават спрабавалі адлічыць з студыі за прафнепрыдатнасць з-за голаса, але кіраўнік курса Павел Уладзіміравіч Масальскі не дазволіў...".*

Але вернемся да кампаніі на Вялікім Карэтным. Трэба сказаць, што менавіта Анатоль Уцеўскі і Лявон Качаран дапамаглі Высоцкаму адважыцца кінуць будаўнічы інстытут. Іна Аляксандраўна Качаран успамінае, што Уладзімір неяк сказаў ёй:

- Калі б не Лёва і Талян, я б застаўся ў будаўнічым...

Тут, на Вялікім Карэтным, на кватэры Качарана сустракаліся Васіль Шукшын, Андрэй Таркоўскі, Артур Макараў, Уладзімір Акімаў, Алег Стрыжэнаў, Усевалад Абдулаў, Яўген Епіфанцаў і многія іншыя. У нейкія перыяды жыцця Высоцкага тут быў яго другі дом.

# Каляндар святаў, прысвяткаў, абрадаў ды прыкметаў ад Юрыя Гіля

**ЧЭРВЕНЬ**

Пачатак лета. "Чэрвень не гуляе, ураджай люляе". У чэрвені дні становяцца доўгімі і зусім кароткія цёплыя духмяныя ночы. Гэты месяц адрозніваецца ад іншых сваім рознацвеццем, з'яўляеюцца першыя ягады...

Яго назва паходзіць з-за чырвонага колеру альбо з-за з'яўлення чарвякоў. Агароды ў гэтую пору ўжо засаджаны, а асноўным клопатам для селяніна з'яўляецца нарыхтоўка сена. Кажуць так: "Касі траву, пакуль луг не адкрасуе" і "Да Пятра высушыш траву і пад кустом". "Чэрвень сена рыхтуе".

З **31 траўня па 6 чэрвеня** – Граны тыдзень, альбо Русальні ці Русальніца. Лічыцца, што ўвесь тыдзень русалкі па жыце бегаюць, а як сустрэнуць чалавека, то могуць яго заказытаць. Прыкмячалі, што, калі ў першы і другі дзень месяца ідзе дождж, то ўвесь месяц будзе сухім.

**1-га чэрвеня** – Міжнародны дзень абароны дзяцей. Таксама Ушэсце, дзень агляду жыта. Паводле павер'яў, у гэты дзень з зямлі выходзяць скарбы, каб прасушыцца, але ніхто іх не бачыць. З пшанічнай мукі у гэты дзень пяклі на малацэ з яйкамі тонкія аладкі, якіх называлі "богавы анучы". Ушэсце лічылі апошнім днём вясны, а ў некаторых мейсцах спраўлялі абрад "Ваджэнне і пахаванне стралы": гурты спявачак з усіх канцоў вёскі (сяла) ідуць у цэнтр, дзе ладзяць карагоды вакол купак дзяцей, якія сімвалізуюць зярняткі жыта. Затым ідуць у поле, паляць вогнішча і качаюцца ў зялёным жыце. Каб "спіна не балела ў жніво", закопвалі ў зямлю дробныя прадметы – "Стралу", каб задобрыць палявога духа на добры ўраджай. Вярталіся ў сяло, спяваючы ўжо летнія песні.

На чэрвень прыпадае старажытнае свята славян – Сёмуха. Звязанае з культам раслін, продкаў і шлюбу. Да Сёмухі прымяркоўваўся і абрад "Куст". Прыгожаю дзяўчыну прыбіралі зялянінай (галлём), на галаву надзявалі вянок і вадзілі такі "Куст" дзявочым "войскам" па хатах, славячы гаспадароў і атрымліваючы за гэта падарункі.

Верылі людзі ў магічную сілу "Куста", прасілі яго "садзейнічаць шчасліваму шлюбу і багатаму плёну ў полі: *"Няхай радзіць жыта, пшаніца і ўсякая пашніца"*.

**2-га чэрвеня** – Градабой, засцерагаліся ад граду, у полі не працавалі.

**3-га чэрвеня** – Алёна, дзень ільну. "Каля святой Алёны гароды ўжо добра зялёны". Лічылася, што пасеяны на Алёну лён будзе асабліва ўдалым. Перакананне было падмацавана сугуччам "лён – Алёна", што ў сялянскім уяўленні рабіла святую Алёну апякункай гэтай палявой культуры і засталося ў народзе: "Сей лён на Алену, будзе кашуля па калена".

Выпраўляючыся на сяўбу, апраналі чыстую бялізну, каб лён вырас чыстым. У кошык (лубоку) з насеннем клалі вараныя яйкі, потым сейбіт на полі іх падкідваў угару, каб лён быў высокі і з буйнымі галоўкамі.

**4-га чэрвеня** – Васіліска. Пасля гэтага дня людзі ўслухоўваліся каб пачуць спеў самай галасістай птушачкі: "Ад Васіліска і салавей блізка".

**6-га чэрвеня** – калі ў гэты дзень, што папярэднічае Яну Хрысціцелю стаяла цёплае надвор'е, то для пчаляроў было добрай прыкметай: "Калі выдзець рой Янам будзе зямец панам". Незапознены вылет пчол абяцаў багаты медазбор.

**7-га чэрвеня** – Ян Хрысціцель (Прадцеча). З гэтага дня, у народзе гавараць, што пайшлі "медзвяныя" росы, кепскія для здароўя. Што ад гэтай расы і трава ржавее, а дзеці могуць захварэць, пабегаўшы босымі па гэтай расе.

... На шостым тыдні пасля Вяліканце (рухомае свята) адзначалася Узнясенне альбо Ушэсце (г.зн. Ушэсце Божае на Неба). Парушаць гэтае свята баяліся, таму што, лічылі - у сям'і можа нарадзіцца шасціпалае дзіця. Гаспадыні абавязкова павінны пячы аладкі: "Трэба Хрысту напячыануч, каб было ў што абувацца. Абуецца і пойдзе ад нас па небу". Пасля гэтага дня дзяўчаты пераставалі спяваць вяснянкі.

У прамежку між Ушэсцем і Сёмухай (заўсёды 10 дзён) нельга было ні снаваць кроснаў, ні ткаць, таму што, казалі, можна заснаваць неабходныя ў гэты час дажджы. Захаваліся ў народнай песні пра Ушэсце і наступныя выразы: "Святы Ушэснік – жыта выплываець...", "Жытцо пучком, каленцам"; "Святы Шаснік колас точыць... з шастом ходзіць, межы раўнуець". Адчуваецца, што няспынна ідзе рух у прыродзе, а для сялян – пара ўзаемадапамогі, арганізоўвалі "талокі" па вывазцы ў поле гною і г.д.

**10-га чэрвеня** – Дзявятнік; засцерагаліся ад грому, не працавалі ў полі, з ім звязвалі і красаванне жыта, як і Дзевятуху 11 чэрвеня. "Дзявятнік красуе, наліваецдь, у пукі бярэць".

Трэба зазначыць, што гэтыя святкі залежаць калі праходзіла Вяліканне. (рухомае свята), гэта трэба ўлічваць

**14-га чэрвеня** – дзень пакутнікоў Юстына і Харытона. У гэты час селянін звычайна аглядае свае пасевы, што і зазначае прыказка: "Юстын цягне уверх канопле. А Харытон – лён". "На Юстына лета ўдаецца – жыта добрым коласам нальецца".

**21-га чэрвеня** – Дзень астранамічнага сонцастаяння (20-21 чэрвеня).

Дзень Тодора (Фёдара). "На Тодара раса – лета сухое і ўрадлівае", "На Тодора раса – канапель паласа".

**23-га чэрвеня** – Купалле ў каталікоў.

**24-га чэрвеня** – святы Ян у Каталікоў. Збіраюць лекавыя кветкі (зёлкі), якія асвячаюць у касцёле.

**26-га чэрвеня** – Акуліна Грачышніца. У гэты дзень у некаторых месцовасцях сеялі грэчку.

**28 – га чэрвеня** – Амос (прарок). Прыказка: "Прарок Амос цягне ў гару авёс".

**29-га чэрвеня** – У каталікоў: Пятро і Паўла. кажуць: "Прыйшоў Пятрок – апаў лісток."

У праваслаўных – Ціхан; кажуць, што на святога Ціхана сонце ледзьве дыхае" альбо "На Ціхана пеўчыя птушкі заціхаюць".

...Народная мудрасць прыраўнівае летні дзень да тыдня і нават да года. Дае маральнаю ацэнку гультаям ды дармаедам. Як напрыклад, у такіх выразах: "летні дзень – за зімовы тыдзень".

"Хто ўлетку балюе, той узімку галадуе"; "летам гуляўшы, восенню не сабярэш" і г.д.

Народныя прыкметы: "Калі камарна, то і хлебна". "Сухое лета не высушыць, а мокрае – вымачыць; "Смірнае лета больш ураджайнае", "што летам нагой капнеш, тое зімою рукой хапнеш". "Як асінка затрасецца, тады волік напасецца" "Самае лёгкае не ёсць самае добрае" – таксама гавораць самі за сябе.

На заканчэнне гэтага летняга месяца нагадаем вершык А. Дзеружынскага "Чэрвень"

"Чэрвень-
Чырвань
Расквітнеўся
Чабарок.
Выйшаў Янна
На Палянку
Збіраць ягады
Ў збанок.
А сунічкі,
Як ліхтарыкі,
Гараць.
-Вунь лісічкі
Невялічкі! –
Дзеці голасна
Крычаць
Чэрвень –
Чырвань,
Сонца свеціць.
Чэрвень –
Першы летні месяц".

# Купалаўцы рэпетыруюць "Плач Любаславы" Аляксея Дударава

Першая рэпетыцыя новай сцэнічнай працы мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы народнага артыста Беларусі Валера Раеўскага - п'есы Аляксея Дударава "Плач Любаславы" - прайшла ў тэатры.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА у літаратурна-драматургічнай частцы тэатра, творчае супрацоўніцтва тэатра з драматургам Аляксеем Дударавым працягваецца доўгі час і заўсёды з'яўляецца вельмі паспяховым. Пачатку рэпетыцыйнага перыяду папярэднічала напружаная сумесная праца па стварэнні сцэнічнага варыянту п'есы, вывучэнню гістарычнага і літаратурнага матэрыялу. Разам з рэжысёрам над спектаклем будуць працаваць сцэнограф, народны мастак Беларусі Барыс Герлаван, кампазітар Віктар Копытько, рэжысёр па пластыцы Яўген Карняк.

Дзеянне гістарычнага дэтэктыва адбываецца ў Вялікім Княстве Літоўскам у XVI стагоддзі. Гэта будзе ўжо трэці спектакль на гістарычную тэму па п'есах Аляксея Дударава, пастаўлены на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Ствараецца своеасаблівы сцэнічны трыпціх: "Князь Вітаўт", "Чорная панна Нясвіжа" і "Плач Любаславы".

У спектаклі занятая палова трупы тэатра, у тым ліку народныя артысты Беларусі Генадзь Гарбук, Мікалай Кірычэнка, Арнольд Пашмараваны, заслужаныя артысты Георгі Маляўскі, Аляксандр Падабед, вядучыя акцёры-купалаўцы, зоркі беларускага тэатра і кіно Святлана Зелянкоўская, Ганна Хітрык, Андрэй Ковальчук, Сяргей Чуб, Андрэй Дробыш і іншыя.

Прэм'ера запланаваная на ліпень цяперашняга года.

# МАЎГЛІ ЗАГАВОРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача пачаліся рэпетыцыі спектакля "Маўглі" па матывах "Кнігі джунгляў" Кіплінга. Тэкст пераклала на беларускую мову Жана Лашкевіч.

*У васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя беларускі ТЮГ ужо звяртаўся да "Кнігі джунгляў". Старэйшае пакаленне гледачоў памятае поспех тэатральнай гісторыі аб Маўглі. Але будучая прэм'ера нічым не падобная да старога спектакля, паведаміла* БЕЛТА.

# *Бываюць і афра-палешукі*



*Мікола Котаў на зваротным баку гэтага здымка напісаў, што тут зафатраграфаваны франмент "Жаніцьбы Цярэшкі". Толькі хто тут Цярэшка?*

# Выстава "ЖОДЗІНЦЫ"

6 лютага 2008 года а 18-й гадзіне ў Мастацкай галерэі Беларускага Саюза мастакоў (Менск, вул. Казлова, 3) адбудзецца літаратурна-мастацкая імпрэза і адкрыцьцё выстаўкі "ЖОДЗІНЦЫ".

Удзел возьмуць Аляксей Марачкін, Уладзімер Сіўчыкаў, Аляксандар Ксяндзоў, Валеры Славук, Алесь Аркуш, Мікола Андруковіч, Уладзімер Гладкевіч, Віктар Зайцаў, Мікола Крайко, Аляксандар Фралянкоў, Мікола Шышлоў, Ігар Марачкін і іншыя.

Выставу, якая экспанавалася ў Жодзіне, Полацку, Наваполацку і рэпрэзентавала 20 мастакоў, мяркуецца паказаць яшчэ ў Горках і ў Лагойску.

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 27 сакавіка 2007 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 01. 2008 г. у 10.00. Замова № 5.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1680 руб., 3 мес.- 5040 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.